

Палескі Нобель → 3

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

PL ISSN 0546-1960 NR INDEKSU 366714



Гайнаўская «Калебка» → 8

http://niva.bialystok.pl
redakcja@niva.bialystok.pl

№ 30 (3246) Год LXIII Беласток, 29 ліпеня 2018 г. Цана 2,50 зл. (у тым VAT 5%)

# «Басовічша» — тут усё наша!

Фота і тэкст Уршулі ШУБЗДЫ

**Адных прыцягвае музыка, іншых людзі, якіх часта сустракаюць раз у год менавіта на фестывалі. Яшчэ для іншых гэта пачатак і інспірацыя да новых дзеянняў, другім — канец нейкай эпохі. «Басовішча», якім бы яно не было, ужо амаль трыццаць гадоў выклікае розныя эмоцыі і не дазваляе нам заставацца абыякавымі.**

На фестывальнай карце Еўропы ёсць адно месца, якое кожны хаця б крыху зацікаўлены музыкай чалавек ведае. Фестываль, які кожнага году сцягвае самыя цікавыя гурты з Беларусі, але перш за ўсё тысячы людзей з розных краін, якіх аб'ядноўвае супольная ідэя. На мінулых выхадных пасярэдзіне Кнышынскай пушчы 29-ы раз прайшоў Фестываль музыкі маладой Беларусі «Басовішча-2018». Беларуская мова, сяброўская атмасфера, нацыянальныя сцягі — гэта, нягледзячы на тое, што фестываль зараз дэманстрацыю палітычных поглядаў ставіць на другі план, частка незвычайнай атмасферы «Басаў».



## Жывое з электронным

Першы дзень фестывалю пачаўся конкурсам маладых выканаўцаў. Сёлета перад публічнасцю і журы прэзентаваліся чатыры гурты: электронны гурт «SnopSnoú», постпанкавы праект «Nürnberg», гітарны дуэт «MorkvoЦвет» і дуэт «Eryk i Ja». Апоўначы наведвальнікі фестывалю даведаліся хто перамог у конкурсе маладых выканаўцаў. Сёлетнім пераможцам стаў гурт «SnopSnoú».

—Той напрамак, які мы абралі — гэта паказаць сябе з новага боку, — адзначыў Сяргей Іваноў з гурту «SnopSnoú». — Мы склалі праграму так, каб яна была цэльнай і каб усё ў ёй добра гучала. Гэта было нашай асноўнай мэтай. Мы вельмі добра сябе адчуваем на «Басовішчы». Фестываль арганізаваны надзвычай прафесійна, мы падключылі сваё абсталяванне і граем, усё! Гэта неверагодна! Калі б у Беларусі быў такі ўзровень, мы ад кожнага канцэрта атрымлівалі б вялікае здавальненне.

Адной з асоб, якая мела ўплыў на вердыкт журы, быў пераможца мінулагодняй конкурснай часткі Яўген Цярэнцеў з гурту «Teleport».

— Яны перамаглі з упэўненым адрывам. Амаль усё журы за іх галасавала. Мы таксама не былі выключэннем таму, што яны зрабілі велічэзны крок за гэты год, — сказаў Яўген Цярэнцеў.— Гурт «SnopSnoú» 2017 і 2018 году — гэта два розныя гурты. Яны зрабілі працу над памылкамі і я спадзяюся, што яны будуць далей расці. Было проста прыемна іх слухаць. Я невялікі фанат электронікі, але яны так арганічна спалучаюць жывое з электронным, што гэта зліваецца ў суцэльны музычны твор. Проста гэта гучыць і табе гэта падабаецца.

## Пашырэнне межаў беларускай музыкі

Сёлета на «Басовішча» прыехала шмат людзей з Беларусі, але таксама з цэнтральнай Польшчы, Літвы і Чэхіі. Адных прыцягвае асаблівая атмасфера, іншых людзі, якіх тут можна сустрэць, але перш за ўсё ўдзельнікі прыязджаюць дзеля добрай музыкі. Для некаторых «Басовішча» гэта сямейнае свята. Сяргей штогод прыязджае з Ваўкавыска са сваім бацькам. Хаця ў іх розны музычны густ, сёлета чакалі аднаго гурту — «Neuro Dubel».



— Тут такая атмасфера, што людзі нават з Бельгіі прыязджаюць, — сказаў Сяргей. — Яны не едуць да Лукашэнкі. У нас тут свае сосны, бярозкі, беларуская музыка! Гэта наша зямля. Тут усё наша. Кулінковіч самы лепшы беларускі вакаліст. Сёлета мы з бацькам прыехалі дзеля яго выступу.




Рок-музыка дэкадамі на «Басовішчы» захапляла натоўпы. Не толькі з-за кідкіх рытмаў і глыбокіх тэкстаў, але таксама беручы пад увагу яе пераказ. Тая музыка была заўсёды голасам пакалення. Спадарожнічала добрай забаве і выказвала бунт супраць рэчаіснасці. Ад некалькіх гадоў арганізатары крыху адыходзяць ад цяжкага гучання «Басаў», што не ўсім падабаецца.

— Для мяне «Басовішча» гэта быў маніфест маладой музыкі, крык маладой Беларусі. Слухаю ўжо каторы год і мне «Басовішча» зараз вельмі блізкае агляду беларускай песні, — сказаў прафесар Лявон Тарасэвіч. — Я гляджу на гэта як на частку беларускай актыўнасці, але мне не хапае маніфестацыі. Маладыя людзі крычаць і дабіваюцца свайго. Заўсёды так было, што маладое пакаленне нешта стварала. Толькі гэтыя галасы лічыліся, якія стваралі новае. Я чую перайграныя песні.

Аднак «Басовічша» надалей прываблівае штораз новых людзей, а нават іх інспіруе. Ад шасці гадоў безупынна на матацыкле прыязджае ў Барык Уладзіслаў з Чэхіі.

працяг → 12





# Пра „нашых” і „немцаў”

У дзяцінстве ўсё было проста, як і ўсе падлеткі мы гулялі ў вайну, і два бакі дзяліліся ролямі напалам — на „нашых” і „немцаў”. Хоць з канца Другой сусветнай вайны прайшло ўжо багата часу, падзел гэты заставаўся доўга нязменным і полюсным. Цяперашнія дзеці ўжо так не дзеляцца, дзякуй Богу, ды і гульні ў іх пераважна іншыя — усялякія камп'ютарныя пстрыкалкі ды стралялкі, дзе хутчэй сапернічаюць не „нашы” і „немцы”, а розныя супергерої з разнастайнымі монстрамі. А мы даўно сталі дарослымі, нібыта разабраліся ў той далёкай вайне, і аднолькава не любім „нашых” і „немцаў”. Любіць іх у нашай, беларускай гісторыі, сапраўды няма за што.

Пасля распаду Савецкага Саюза беларусы яшчэ некалькі гадоў па інерцыі называлі ўсе расейскія спартовыя каманды „нашымі”, потым гэтае азначэнне ў дачыненні да суседзяў паступова стала знікаць. Усё ж такі свая суверэнная дзяржава, ды і многія беларускія каманды і спартоўцы годна праявілі сябе на міжнароднай арэне. Спакваля самасцвярджэнне нацыі ішло ў тым ліку і праз спорт. Аднак, апошнія гады, пасля акупацыі Расеяй Крыма, пайшла зноў зваротная тэндэнцыя. Характэрным тут стаў нядаўні чэмпіянат свету па футболе, што праводзіўся на бяскрайніх расейскіх прасторах. Паводле апытання „Прессбола”, найбольш папулярнага спартовага рэсурсу Беларусі, ажно 48% беларускіх аматараў футбола заўзімалася за зборную Расеі, 52% — не. Але варта адзначыць, што ў гэтым апытанні ўдзельнічала пераважна рафінаваная публіка. Што датычыць „народных пралетарскіх мас”, то, думаецца, працэнт падтрымкі суседзяў там быў намнога большы. І тут Аляксандру Лукашэнку ёсць пра што задумацца. Хоць бы пра тое, што папулярнасць умоўнага Арцёма Дзюбы (форвард дружыны Расеі) вышэй за папулярнасць цэлага начальніка беларускай дзяржавы. Пра нас ён думаць не будзе, то хай хоць пра сябе падумае.

Расейскі кіраўнік Пуцін са сваёй прапагандысцкай машынай абсалютна запісаў мінулы мундыяль на сваю карысць. Дзеля большай эфектыўнасці з дапамогай роднасной „братняй ФІФы”, якая раней зрабіла ўсё, каб аддаць права на гэтае першынство Расеі, былі выпісаныя славутыя футбольныя зоркі мінулых часоў. Кожны з іх атрымліваў шчодры чэк на кругленькую суму за наведванне кожнага канкрэтнага матча. Запрашаліся і кіраўнікі практычна ўсіх дзяржаў — удзельніц чэмпіянату. Лідары Вялікабрытаніі і Польшчы не скарысталіся такім запрашэннем — за гэта ім, як кажуць, чэсць і павага. Але бальшыня палітыкаў іншых краін паляцела ў Маскву і іншыя гарады па першым поклічы. Многія беларусы шчыра захапляліся прэзідэнтшай Харватыі Каліндай Грабар-Кітаравіч, якая прыляцела ў Расею звычайным рэйсавым самалётам. Калі б яна была ў цэнтры Заграба разам са звычайнымі заўзятарамі — іншая справа. А так — прабачце. А вось галоўны трэнер футбольнай харвацкай дружыны Златка Даліч хутка паставіў на месца членаў урада сваёй дзяржавы — мауляў не трэба падмазвацца да нашага поспеху, калі ў краіне няўдала ідуць рэформы, за якія вы адказныя.

Кожны з высокіх чыноў, што прыехаў у Расею на гэты турнір — каралі Бельгіі і Іспаніі, прэзідэнты Харватыі і Францыі, ды іншыя — паўдзельнічалі ў спектаклі, сцэнарый якога напісалі ідэолагі Крамля. Уладзімір Пуцін меў шанц выцягнуць з гэтага мундыялю ў канцоўцы яшчэ большыя дывідэнды, але не змог у сілу сваёй натуры. Маю тут на ўвазе паказальны момант пасля фінальнага матча, калі на поле ў час узнагароджвання пераможцаў і прызёраў абрынулася сапраўдная залева. Для расейскага кіраўніка адразу знайшоўся вялізны парасон. Парушыўшы пратакол, Пуцін мог адразу пад яго ўзяць і французскага прэзідэнта Макрона і згаданую Грабар-Кітаравіч, але тыя працягвалі стаяць убаку і мокнуць яшчэ некалькі хвілін, пакуль не прынеслі яшчэ пару парасонаў. Тым самым яскрава было паказана, хто гаспадар на гэтым футбольным фэсце, а хто, хоць і высокапастаўленая, але ўсё ж абслуга.

Ну а беларусы ў сваёй масе яшчэ доўга будуць разбірацца, хто насамрэч „нашы”, а хто — не.

Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ



# Недасканалая прыгажосць

У сваіх дзённіках Эдвард Стахура, паэт і пісьменнік, чалавек, які, дарэчы ўвесь творчы шлях змагаўся так з жыццём, як і са смерцю, напісаў такую прыгожую фразу — цытую яе з памяці: «Ты дай мне трошкі, я табе аддам усё; калі ты дасі мне больш — я табе толькі ўсё. А калі ты дасі мне ўсё, і я, не менш, не больш, аддам табе ўсё».

Ёсць такія людзі, якія на працягу ўсяго свайго жыцця не даюць нічога іншым. Або толькі трошкі сябе. Не асуджаю іх. Яны будуць для сябе бухгалтарамі ўласнага сумлення. Ёсць таксама людзі, якія даюць іншым больш, чым самі атрымліваюць. Такія людзі ў нас у глыбокай павазе, хоць не шкадуем ім маладушнага сарказму. Ёсць таксама максімалісты. Яны не даюць іншым ані трошкі, або больш ці нават яшчэ больш. Яны для гэтага занадта прыгожыя, духоўна, ці як гэта ні назваць. Таму, што яны даюць усё астатнім — пастаянную дабрыню, сапраўдную сумленнасць, жыццёвы аптымізм, памяркоўнасць да чалавечых слабасцей, клопат і ўвагу, добрае слова і карыснае старанне, альтруізм і незафальшаваную эмпатыю. І калі вам трэба, таксама матэрыяльную або фінансавую падтрымку. Такімі іх ведаем. Іх дзеянні і думкі аднолькавыя. Няма паміж імі разыходжанняў. Але ці мы іх сапраўды ведаем?

Чалавечае жыццё з'яўляецца свайго роду гісторыяй, якая заканчваецца разам са смерцю. Быццам бы. Я кажу інакш: такая гісторыя снуецца доўга пасля чалавечага жыцця — якое б яно не было, а смерць гэта проста драматычны анекдот, які не аказвае ніякага ўплыву на гісторыю пра чалавека. Таму, што ён усё яшчэ працягваецца ў розумах жывых — сваякоў і сяброў. Ну, хіба што здарыцца няшчасце памерці ў абсалютным забыцці. Гэта не адносіцца да максімалістаў. Апавяданні пра іх ніколі не скончацца, і пасля іх смерці нават распрацоўваць новыя лініі. А гэта, у сваю чаргу, прыводзіць да альтэрнатыўных варыянтаў свайго фабулярнага працягу. Гэты працэс бясконцы. З аднаго боку таму, што яго галоўны герой быў занадта добры, каб яго гісторыю проста закрыць заключнай кропкай. З іншага боку, паколькі гэтыя патокі працягваюцца самі па сабе, снуюцца ў свядомасці тужлівых сваякоў і сяброў, у бясконцых радках магчымых варыяцый. Некаторыя з іх, хутчэй за ўсё, дадумоўваныя. Некаторыя ўяўныя. У рэшце рэшт, кожная з іх, чэрпаючы з чыстых крыніц, дасягае вусця незаплямленай ісціны. Ісціны такой, якую мы разумеем і якой мы хочам. Гэта неабавязкова павінна быць уся праўда пра чалавека, і толькі праўда. Толькі ён мог бы вырашыць, у якой ступені гэта будзе самая сапраўдная праўда. Толькі што ён тае праўды не дакажа ані ўласнымі дзеяннямі, ані ўласнымі словамі.

Антычныя грэчаскія вазы, за выключэннем таго, што мелі выдатную мэтазгоднасць у сваёй форме, таксама распавядалі гісторыю намаляваную на сваіх брушках. Схілімся над адной з іх. Яна была створана 2,5 тысячы гадоў таму ў старажытных Афінах. Звязана яна з тэхнікай так званай групы чорна-фігурнага посуду. Мала іх захавалася да нашага часу. Бачым фігуру, якая імкнецца наперад. Не ведаем, адкуль ідзе, не ведам, куды ідзе. Можам толькі здагадвацца, што гэта вандроўнік блукаючы па пустыні. У яго паставе ёсць нешта інтрыгуючае. Правая нага стаіць цвёрда на зямлі, але яго левая нага, што рыхтуецца да кроку, здаецца, з нейкай нялюдскай сілай адпіхваецца назад. На твары вандроўніка адлюстраваны здзіўленне, ашарашанне, няўпэўненасць. Мы ніколі не даведаемся, што было таго прычынай, таму што жывот вазы моцна ўшчэрблены — можа ў адсутнічаючым урыўку маецца адказ на ўсе чалавечыя пытанні? Можа быць. Ці хтосьці зайздросны за тое веданне зрабіў гэта знарок? Ці, можа быць, наступны ўладальнік вазы быў неасцярожны і разбіў яе, паставіўшы замоцна на сталe? Гэтага таксама не даведаемся. Але гэта зусім іншая гісторыя. Мы, сучаснікі, не спыняемся на пытаннях. Што ці каго ўбачыў перад сабой вандроўнік? Што адбылося далей? Хто ён быў? Куды ён ішоў? Задаем гэтыя і многія іншыя пытанні. За імі будуць узнікаць больш-менш рэальныя адказы. Аднак, яны не скончаць расказу намаляванага на вазе. Сапраўды аднак ніякі адказ «не» ці «так» не канчае гісторы пра любога чалавека. Тым больш, што калі б гэта быў чалавек, як гэтая грэцкая ваза, выдатнай, хоць ушчэрбленай вялікай недагаворанасцю.

Міраслаў ГРЫКА



Сваімі вачыма

# Мяжа чакання і выжывання

Пішучы на мінулым тыдні пра вечныя межы чакання, я думаў, што ўжо не буду вяртацца да гэтай тэмы. Аднак расказы маіх сяброў і знаёмых пра гэтую набрынялую і пакуль зусім нявырашаную праблему нейкім чынам прымусілі мяне шырэй апісаць гэтую з'яву. Стоячы на любым памежным пераходзе, чалавек раптоўна прымушаны весці сябе паслухмяным і цярпімым. У іншым выпадку можна апынуцца пад пільнейшым вокам службоўцаў і тваё перасяканне набудзе новых якасцей, напрыклад, машына будзе скіраваная на «яму», дзе не толькі яе прасканіруюць, але і раскруцяць.

А гэтага не хочуць самі ўласнікі машын, ну і сама машына пасля такога даследавання найчасцей мусіць трапіць у спецыялізаваны аўтасэрвіс. Таму людзі вонкава выглядаюць спакойнымі, але ў сярэдзіне кожнага з іх закапаная эмацыянальная міна, якая ў любы момант праяўляецца агрэсіяй да сваіх спадарожнікаў, шафёра ў наступнай машыне, ці сабакі, што путаецца паміж чэргамі. Стоячы на украінска-польскай мяжы, заўважыў я адну розніцу ў паводзінах з людзьмі з беларуска-польскай мяжы. Менавіта ўгневаныя чаканнем украінцы і палякі, раз-пораз свой гнеў супраць марудняй працы памежных і мытных службаў выяўлялі працяглым сігналізаваннем. Клаксаны працавалі некалькі хвілін, потым сціхалі, каб ізноў праз гадзіну прыгадаць пра злосць людзей, прымушаных стаяць у памежнай зоне. Такіх форм пратэсту не бачыў я і не чуў на польска-беларускай мяжы. Затым застаецца сядзець у машыне столькі гадзін і ў дадатак прыходзіцца часта прайграваць нервамі з надвор'ем. Дождж, спёка, ці маразы заўсёды будуць прымушаць нас да адной думкі: больш мая нага тут не пастане, пайшла нахер тая ўся турыстычная асалода. Людзі не стрымліваюць чакання і пачынаюць нервова бегаць уздоўж чаргі, спаглядаючы з надзеяй на зрухі аўтакалоны. Таму мяне заўсёды моцна здзіўляюць шафёры, якія халаднакроўна ў тым часе чытаюць кніжкі. Мая сяброўка распавяла мне, што цягам шасці гадзін у чарзе прачытала кніжку знаёмага аўтара, які назойліва дапытваўся, ці прачытала яна ягоны твор. «Цяпер ужо магу не выкручвацца недахопам часу, а нават пахвалюся яму, што кніжка прачытаная ўжо мною» — сказала яна. Не запытаўся я толькі, колькі ў гэтым чакання скурыла яна папяросак. Здаецца, што дазволеныя рэгламентам перавозу дзве пачкі пайшлі з дымам, пакуль дакацілася яна да польскіх мытнікаў. А дакляраваць, што ты не вязеш папяросак, згары абазначае ўзбуджэнне падазрэння да такой асобы. Я не куру, але на польска-беларускай мяжы з ахвотай куплялю дзве пачкі цыгарэт сваім сябрам, каб было менш пытанняў,ператрусу і затрымлівання чаргі. Бо аснойнае затрымліванне чаргі, якое зараз назіраецца на мяжы Еўрасаюза з Украінай і Беларуссю, гэта не цыгарэты і алкаголь, але ўзаемная бітва за абарону спажывецкага рынку перад мяснымі і малочнымі харчамі суседзяў.

Ужо здалёку высока завешаныя электронныя чырвоныя банеры перад польскімі пагранічнымі пераходамі інфармуюць пра поўную забарону ўвозу малочных і мясных прадуктаў у любой форме апрацоўкі. Адным словам той жа кумпяк ці саланіна на роўні са стэрылізаванай тушонкай ці баначным кефірам нясуць з сабою пагрозу для эканомікі і здароўя людзей і жывёл Еўрасаюза. А ўсё з-за міфічнай ужо афрыканскай чумы свіней, якой найлепш пхацца ў пераапрацаваных прадуктах праз кантраляваную мяжу. Бо ж у тым жа самым часе без пашпартоў і кантролю птушкі, дзікі і іншыя жывёлы на шчасце яшчэ могуць паднебнымі і зямнымі шляхамі вандраваць па гэтай зямлі. І на шчасце ідэя нейкага «цудоўнага» муру на ўсёй усходняй мяжы стала ўжо толькі гісторыяй. Аднак лозунг пра бяспеку здароўя патрэбны дзеля таго, каб падрыхтаваны табою бутэрброд мусіў быць з'едзены перад кантролем, калі трапіш на помслівага мытніка. Няма тады выхаду — трэба яго як і ўсе іншыя прадукты пакласці ў спецыяльныя скрыні. Што гэта абазначае для небагатых беларусаў і украінцаў, якія едуць падтрымліваць сваімі рукамі польскую эканомію, не цяжка ўявіць. Але пра гэта ў наступным фельетоне.

Яўген ВАПА

# Палескі Нобель маладосці

Яўген ВАПА

**Лёс усё ж такі бывае непрадбачлівы і ласкавы. Нават калі кожнаму з нас ёсць ужо ўсё пісанае ці суджанае, як некаторыя гавораць, зверху, то аднак гэтага ўсяго зямнога здзяйснення мы на шчасце проста не ведаем. Таму скарыстанне з магчымасці пабыўкі ў пэўных месцах і адчуванне духоўнасці ад сустрэтых там людзей, можам часамі ўпісваць у катэгорыю атрыманага цуду. Менавіта ў такіх светаглядных прынцыпах, як мне здаецца, пісалася Ганнай Кандрацюк яе апошняя кніга «Па Прыпяці па Нобель», выдадзенай нашай рэдакцыяй.**



Перад бібліятэкай у Зарэчным

З гэтай кнігай аўтарка ўжо прыплывала з прэзентацыяй у Брэст, Бельск-Падляшскі, Варшаву, Беласток, Мінск, Гарошкаў пад Гомелем, Трасцянку. Адным словам прастора палескага польска-беларускага арэалу выявілася чытачам у дзвюх краінах. Будучы сведкам гэтых сустрэч, заўважалася адна прага яе ўдзельнікаў: людзі хацелі выступаць, а не толькі ўступаць у свае асабіста-племянныя прыватныя рэкі забыцця. Чалавечыя думкі, ідэі пачыналі набіраць хуткасці і інспірацыі, даючыся панесці жыватворным водам палескай ракі. Усё ж невыпадкова, што і старажытныя філосафы менавіта ў воднай прасторы бачылі адно з важнейшых вымярэнняў не толькі чалавечага жыцця, але і яго духоўнага здзяйснення. З супрацьстаўляльным агнём, мы маем першабытную крыніцу для нашага абстрактнага думання і літаратурна-культурных выклікаў. Выклікам будзе напэўна гэтая кніга і для сяброў журы беларускай прэміі Ежы Гедройца, да якой яна зараз вылучана. Ясна, што ў параўнанні з чыста літаратурнай прозай тут не тое выяўленне, але ў пошуках і апісанні саміх жыццёвых, універсальных праўд чалавецтва, то напэўна вытрымлівае канкурэнцыю з указаннем на патрэбу падыходу да прозы не толькі як разгорнутай, шматвектарнай аўтарскай ідэі. Ну і дыялогі, пісаныя Ганнай Кандрацюк, даюць чалавеку адчуваць нават дыханне герояў, уключна з вобразнай мімікай іхніх паморшчаных жыццём і ветрамі твараў. А гэта толькі і аж толькі, калі лічым літаратуру сродкам для ўзбуджэння выяўленых пошукаў для нашых сэрцаў і душ.

Заставаўся яшчэ адзін выклік, самы галоўны як для аўтаркі, так і выдаўца — з'явіцца перад тымі, хто апісаны ў кніжцы. Ці яны — героі надпрыпяцкіх бадзянняў аўтаркі, успрымуць апісаны свет як свой, праўдзівы па лёсе і гісторыі, ці не адчуюць сябе скарыстанымі і асмешанымі або прыхарошанымі ў эгаістычным, творчым працэсе кожнага аўтара? Ну і самае непазбежнае пытанне не толькі ад мяне як рэдактара, але і іншых чытачоў твора: ці апісаны свет сапраўды такі ж? Ці гэтае пранікненне народна-прыроднай і сакральнай стыхійнасці магчымае ў гарманічным існаванні яшчэ ў дваццаць першым стагоддзі? Менавіта чым больш разоў прачытваеш кнігу, тым больш узнікае такіх пытанняў. Без пытанняў жыццё і кнігі адыходзяць незаўважна.

Аўтарка, Віктар Сазонаў і выдавец, кожнае загружанае пытаннямі і сумненнямі, багажом і кніжкамі, раніцай 12 ліпеня ў дзень святых Пятра і Паўла рушылі на ўкраінскі бок Палесся на аўтарскія сустрэчы з героямі кніжкі, якія ў завяршальным этапе вандроўкі Ганны Кандрацюк пражывалі ў Зарэчным (Зарічне) і Нобелі. Само падарожжа, назіранні за ўкраінскай рэчаіснасцю гэта тэма для зусім іншых рэпартажаў ці фельетонаў.



Ад малога да старога у Нобелі Ганну Кандрацюк сустракалі кветкамі і караваем

Мы трымаймася галоўнага — сустрэч аўтаркі кнігі з яе героямі.

Каб не ехаць і толькі прэзентаваць кнігу, рэдакцыя загадзя адправіла дзясятак экзэмпляраў кнігі галоўнаму духоўнаму і цялеснаму апекуну і завадатару сустрэчы, бацюшку Паўлу Дубінцу з Марочнага. З гэтым незвычайным чалавекам быў я знаёмы толькі са старонак кніжкі. Неўзабаве пашчасціла мне сустрэцца з ім асабіста. Менавіта пасля дня свайго ангела-ахоўніка, трынаццатага ліпеня, бацюшка адзначаў і свой дзень нараджэння. Знакамітага духоўнага бацьку, грамадскага дзеяча, краязнаўца-журналіста гэтымі днямі віншавалі ўсе. У раённай газеце «Полісся» віншавала сям'я, змяшчаючы прыгожы здымак у духоўным аблачэнні. Саграшыў бы, калі б не забыў напісаць, што бацюшка вядзе і гаспадарку — мае каня, дзве каровы, вялікі агарод. І з усім спраўляецца. А абед у Вас, Бацюшка, пад купаламі царквы і кронамі дрэў застанецца ў маёй памяці летуценнем шчасця. Вялікая падзяка ад нас Вам, матушцы, дзецям і ўнукам за час шчаслівасці. Дай Божа ўсім Вам сілу на многія леты!

Апярэджваючы факты хачу сказаць самае галоўнае — да нашага прыезду кніга была ўжо прачытана мясцовымі раённымі ўладамі, пісьменнікамі, настаўнікамі, ну і самім жа святаром. Хто з нашых прадстаўнікоў мясцовай эліты, не гаворачы пра журналістаў ці пісьменнікаў, мае столькі ахвоты, каб быць так падрыхтаваным? Давайце ўявім сабе феномен гэтай падзеі: трыста старонак кніжкі, напісаной па-беларуску ў Беластоку, чытаюць украінскія чытачы пра супольнае і любімае ўсім Палессе. Я спачатку, зразумела, не паверыў такім запэўніванням, але ўжо па гадзіне сустрэчы было відаць, што не былі гэта пустыя словы. Людзі перакідваліся радкамі кніжкі, успамінаючы таксама апісаных герояў. Менавіта так выглядала першая сустрэча ў пятніцу трынаццатага ліпеня ў раённай бібліятэцы ў Зарэчным. Само прывітанне Ганны Кандрацюк перад будынкам хлебам-соллю, кветкамі і вершамі, проста паказала вялікую адказнасць і звышпільнасць для самой аўтаркі. А на стале чакалі нас уласнаручна печаныя пірагі і караваі з вішнёвай і сунічнай начынкай. Пахата і смаката. Ганна тактоўна ў адказ распавяла пра сваё шчасце ад магчымасці выступіць перад героямі кніжкі. Некаторыя героі некалькі гадзін з раніцы дабіраліся, каб паспець. І прыязджалі не з пустымі рукамі — з гасцінцамі, блізкімі сэрцу і душы. Сустрэча незвычайная і сардэчная. Мне проста дух у грудзях займала, калі прадстаўнік мясцовай улады ў голас палю мала спеву, перад намі выступіла маці дзесяці дзяцей з песняй пра салаўёў, каб тыя вярталіся на Украіну. Словы, музыка і выкананне павінны адразу быць пастаўлены ў ратацыю на радыё. Па мне пайшлі дрыжыкі і слёзы, бо ўявіў я сабе, як трэба быць шчаслівым і свабодным, каб весці гаспадарку, гадаваць шматдзетную сям'ю і мець сілы і ахвоту складаць і спяваць песні. Несучы дровы, вёдры з вадою ці кормам, патрапіць адначасна ўглядацца ў прыгажосць акружаючага свету. Пашана і нізкі паклон людзям гэтай зямлі. Сапраўды, шматдзетныя палескія сем'і — гэта гонар і годнасць мясцовага насельніцтва, усяго — ад начальнікаў да простых рабочых. Колішняе пачуццё сораму на шчасце прайграваe са зразуменнем радасці пражывання ў вялікай сям'і. Усё згаджаецца. Напісанае ў кіжцы Ганнай Кандрацюк у гэтай справе з'яўляецца вялікай праўдай.

На сустрэчу прыехаў з Кіева, а потым у Нобель чалавек закаханы ў сваё мясцовае, роднае слова і музыку Паўло Крыневіч. Матэматык і фізік складае слоўнік роднага Нобеля. Усё гэта пасля інсульту. Такая звычайная заядласць: я магу адысці, але слова роднае хай застанецца на векі. Неверагодна ўражвае мясцовы

бяцаў пашукаць грошай, каб перакласці кніжку з беларускай на ўкраінскую мову. Каб яна трапіла ва ўсе школы, бібліятэкі, раёны і да ўсіх людзей, якія апісаны ў кнізе. На добры дзень такое дэкларатыўнае абяцанне было, здаецца, і для самой Ганны Кандрацюк сюрпрызам, пра які толькі можна было памарыць. Але гаспадары свае духоўныя гасцінцы прэзэнтавалі адзін па другім. Вось менавіта спецыяльна для аўтаркі кнігі заспявала народная артыстка Украіны, адзіны і непаўторны палескі голас краю Даня Чэкун. Як потым прызналася шакіраваная ад шчасця сама аўтарка, яна слухае гэтыя песні ў кампаніі з мужам у сямейных, урачыстых абставінах. Відаць было потым, што паміж жанчынамі завязалася ніць духоўнага паразумення. Каб не бы-

працяг 10

## Прыйдзеш, а крама закрыта

Прадуктовую краму ў Плянце Нараўчанскай гміны Гайнаўскага павета пачалі ўсё часцей замыкаць раней вызначанага часу. Дзеецца гэта перш-наперш па суботах і нядзелях. Тройчы з-за гэтага я не зрабіў пакупак. Пачаў запісваць дні, калі прадаўшчыца пакінула працу раней, чымсьці трэба.

Чакаў да трох разоў і той трэці выпаў 14 ліпеня гэтага года. Прыехаў, спяшаў, а тут на табе, дарэмныя былі мае намаганні. Чаму крама была пад ключом, не было — як і ў папярэднія разы — ніякай інфармацыі. Мабыць, прадаўшчыцы надаела чакаць пакупнікоў і яна ідзе сабе дадому. Спагады для пакупніка ніякай. Бліжэйшыя крамы ў Нараўцы або ў Старым Ляўкове, туды і туды адсюль чатыры кіламетры. Па суботах і нядзелях аўтобусы ПКС і прыватныя не ездзяць. Сядай на ровар (калі яго маеш), або ідзі пехатой. Не ўсе ж ездзяць на ўласных аўтамашынах.

Добрае трэба хваліць, а дрэннае крытыкаваць. Пра нядобрыя практыкі плянтаўскай прадаўшчыцы не будзем маўчаць. Можа выкараніць іх старшыня ГС у Нараўцы, хаця я ў гэтым няўпэўнены. Маю дзеля гэтага свае шматгадовыя назіранні. Старшыня не рэагуе на крытыку. Ёй абы спакойна пражыць да пенсіі. Не цікавіцца, дзе вісяць шыльды на даўно закрытых крамах (напрыклад, у Гушчэвіне) або як маюць зайсці ў краму пакупнікі цераз лужы і балота ў Плянце. Не пацікавіцца, чаму раней вызначанага часу прадаўшчыцы там-сям замыкаюць крамы. А гэта ж гандаль. Тавар трэба прадаваць. Зараз і пра пакупніка трэба змагацца.

## Такія дамы цешаць зрок

Вёска Лешукі Нараўчанскай гміны Гайнаўскага павета налічвае семдзесят дамоў, у тым ліку каля сарака драўляных, і 112 жыхароў. Найбольш дамоў стаіць паабапал асфальтавай павятовай дарогі. Сяло знаходзіцца на Усходнім веласіпедным шляху Green Velo і ад пару гадоў дзейнічае тут спецыяльна пабудаванае адпачынковае прыстанішча для цыклістаў.

У вёсцы была раней прыгожая пачатковая школа ў аднапавярховым будынку (цяпер яе няма). Ездзіў сюдою рэйсавы аўтобус ПКС з Гайнаўкі ў Беласток цераз Нараўку і Старое Ляўкова. Прыгожы драўляны прыстрэшак (быў ён ужо другі на тым месцы) і зараз стаіць. На добры ўспамін. Ёсць тут новапабудаваная прыгожая мураваная святліца. Лешукі — вёска без тратуара, бо вяскоўцам — так яны, мне вядома, што не ўсе (было так, што нават у адной і той самай сям'і жонка была за, а яе муж супраць), заявілі на сходзе — ён ім непатрэбны.

У Лешуках задбаныя ды прыгожыя драўляныя дамы маюць, між іншым, Кацярына і Ян Марціновічы, Эва Зялінская, Рафал Кандрацюк, Лідзія Харкевіч ды Марыя і Тадэвуш Кунцэвічы. Пры хаце Тадэвуша Кунцэвіча быў некалі даволі вялікі ладны ганак. Белым сайдынгам абабілі свае драўляныя дамы Юрка Кунцэвіч і Казімір Мікса. Усе яны цешаць зрок. Некаторыя жыхары вельмі дбаюць пра выгляд сваіх хат, пабудаваных з дрэва, якое, як вядома, найбольш прыязнае чалавеку. Рамантуюць іх, перакрываюць (найчасцей накрываюць бляхадахоўкай), устаўляюць новыя вокны і дзверы ды малююць на прыгожы колер. Панадворкі абгарадзілі новымі драўлянымі платамі. З ранейшых драўляных жылых будынкаў, якія я памятаю, шмат ужо адышло ў нябыт. Некаторыя прызабытыя з паваленымі дахамі яшчэ стаяць у густых зарасніках.

**Янка ЦЕЛУШЭЦКІ**




Анджэй Парафінюк, Вітальд Карчэўскі, Войцех Кусьпік, Ежы Ляшчынскі, Тадэвуш Трускаляскі, Марта Дабжаньска

# Усходні гаспадарчы кангрэс

25 чэрвеня ў фае Беластоцкай оперы адбылася прэс-канферэнцыя на тэму сёлетняга Усходняга гаспадарчага кангрэса. З падзеяй, якая адбудзецца 3-5 кастрычніка ў Беластоку, знаёмілі Войцех Кусьпік — старшыня Польскага таварыства падтрымкі прадпрымальнасці, Ежы Ляшчынскі — маршалак Падляшскага ваяводства, Тадэвуш Трускаляскі — прэзідэнт горада Беластока, Вітальд Карчэўскі — старшыня Гандлёва-прамысловай палаты ў Беластоку ды Анджэй Парафінюк — старшыня Падляшскага фонду рэгіянальнага развіцця.

Войцех Кусьпік: — Чарговы, пяты ўжо, выпуск Усходняга гаспадарчага кангрэса стаў найважнейшымі адкрытымі дэбатамі пра ўсё тое, што важнае для Усходняй Польшчы. Важнай таксама падзеяй у сферы гаспадарчых адносін паміж Еўрасаюзам, Польшчай і ўсходнімі суседзямі. Ранейшы выпуск паказаў, што такія сустрэчы маюць сэнс і яны рэальна запатрабаваны. Прыгадаю, што першы выпуск кангрэса гэта каля 600 удзельнікаў, а ў мінулым годзе было ўжо 1500 удзельнікаў. І гэта паказвае, што ёсць рэальная патрэба праводзіць такія сустрэчы. УГК гэта галоўным чынам гаспадарка і тэмай нашых размоў з'яўляюцца гаспадарчыя справы, якія рэалізуем у шчыльным супрацоўніцтве з асяроддзем прадпрымальнікаў, бо гэтыя тэмы запатрабаваны асяроддзем. У рамках кангрэса прадбачваем суправаджальныя мерапрыемствы, сустрэчы маладых лідараў і іншыя. Стартапавы праект, які ў мінулым годзе праводзілі мы ўпершыню, выклікаў даволі вялікую зацікаўленасць маладых прадпрымальнікаў, будзе ён і сёлета. Тэматычны дыяпазон зараз у стадыі шырокага размеркавання і кансультацый з прадстаўнікамі бізнесу, самаўрадаўцамі, адміністрацыяй, замежнымі партнёрамі. Хочам у хуткім часе стварыць канчатковую прапанову з удзелам партнёраў не толькі з Усходняй Польшчы, але таксама з цэлай краіны ды з замежжа. Імкнемся да таго, каб інтэрнацыяналізацыя кангрэса спрыяла ўзбуйненню гаспадарчай дынамікі рэгіёна; у мінулым годзе былі ўдзельнікі з Германіі, Аўстрыі, Сербіі, Беларусі, Украіны. І да гэтага імкнемся і сёлета. Бізнес гэта размовы, з якіх вынікаюць канкрэтныя гаспадарчыя праекты.

Ежы Ляшчынскі: — Гэта важная падзея не толькі для Падляшскага ваяводства, але і ўсяе Усходняе Польшчы. Спадзяемся большай колькасці гасцей, чым у мінулым годзе. Гэта шанс паказацца нашым фірмам у маштабе Еўропы і свету.

Тадэуш Трускаляскі: — Хочам будаваць марку кангрэса, мэтай якога мае быць маштабная гаспадарчая прамоцыя Беластока і ўсяго Падляшскага ваяводства. Госці Беластока станоўча здзіўлены тымі зменамі, якія адбыліся ў нашым горадзе. Тыя, што не былі ў Беластоку, інакш гэты Беласток уяўлялі, пабачанае станоўча іх уразіла. І кожны, хто сюды прыедзе, становіцца нашым пазітыўным амбасадарам. Гэтая дынаміка радуе і трэба спадзявацца, што за некалькі гадоў гасцей кангрэса будзе тры-чатыры ці нават пяць тысяч. Такая наша мэта і яна рэальная, бо бачым, як Беласток развіваецца.

Вітальд Карчэўскі: — Прадугледжваем арганізацыю гаспадарчай выставы на Рынку Касцюшкі. Яна будзе адрасавана ўдзельнікам кангрэса, жыхарам горада ды беластоцкім вучням. Яна мае паказаць нашу гаспадарку, яе мадэрнасць, інавацыйнасць, месца — якое займаем у гаспадарчым свеце. Хочам таксама паказаць нашу гаспадарку гандлёвым саветнікам амбасад, акрэдытаваным у Варшаве.

Анджэй Парафінюк: — Дэмаграфічныя паказальнікі для нашага ваяводства не выглядаюць надта мажорна ў перспектыве набліжаючыхся гадоў. Мяркуецца, што штодня гэты рэгіён пакідаюць назаўсёды дзве-тры асобы. Таму трэба нам весці такія мабілізуючыя дзеянні, якія б стрымалі гэты адток. Сёлета хочам ладзіць сустрэчы з людзьмі, якія паспяхова працуюць у Беластоку, якія паспяхова здзяйсняюць тут свае пасіі.

Кангрэс пройдзе пад лозунгам „Тут сустракаецца Усход з Захадам". Тэматыка сёлетняга кангрэса ахопіць найважнейшыя напрамкі гаспадарчага развіцця рэгіёна, вызначыць слабыя месцы і бар'еры для пераадолення, падкрэсліць ролю грамадскага капіталу, эканамічнага супрацоўніцтва, старт-апаў і інавацыйнасці, пакажа новыя рамкі еўрасаюзнай палітыкі яднання ды стратэгіі ў карысць адказнага развіцця ды іх значэнне для ўсходняй часткі Польшчы.

Тэкст і фота
**Аляксандра ВЯРБІЦКАГА**



## Абноўлены храм



У суботу 21 ліпеня г.г. была асвечана абноўленая капліца на прыхадскіх ляўкоўскіх могілках. Першапачаткова невялікая мураваная капліца была ўзведзена ў канцы 1960-х гадоў. Аднак яна аказалася зацеснай і ў апошніх гадах яе разбудавалі. Урачыстую службу ўзначаліў гайнаўскі епіскап Павел у саслужэнні шматлікага духавенства. Асобы, якія ўнеслі найбольш ініцыятывы і працы пры абнаўленні храма, былі ўзнагароджаны медалямі і граматамі Сабора епіскапаў Польскай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы. У іх ліку Мікалай Павільч, Галена Рэент, Андрэй Скепка, Ірына і Уладзімір Сухадолы, Канстанцін Целушэцкі і іншыя.

(ав)

**Фота Аляксандра ВЯРБІЦКАГА**



# Кніга з чырвонай зоны

Вікторыя Лоска, грамадзянка Польшчы, жыве на Паморы. Родам яна з Калінінграда, інжынер-будаўнік па прафесіі. Займалася «нежужчынскім» міжнародным бізнесам, мела між іншым фірму на Кіпры, арганізавала транспарціроўку нафты і газу, таксама ў сваю абраную краіну. Яе кампанія мела сядзібу ў Маскве. Давялося ёй падпісаць кантракт з нейкім Дзюбайлам, уладальнікам іншых кампаній, у прыватнасці транспартных, вядомым як «шэры кардынал», маючы добрыя адносіны ў расійскай паліцыі і пракуратуры. Вікторыю Лоску «прадала» яе супрацоўніца, юрыстка, якая сфармулявала дагавор так, каб была яна стратнай у гэтай здзелцы. Дзюбайла меў адкупіць ад Лоскі кантэйнеры для транспарціроўкі газу, а затым вярнуць іх у лізінг (пазычыць), але ў момант падпісання кантракта стаў іх уладальнікам (не выплаціўшы яшчэ грошай). І не меў намеру плаціць усю суму (застаўся адзін мільён долараў). Вікторыя Лоска прабуе судзіцца з Дзюбайлам. Але мусіла вярнуцца ў сваю краіну, каб звярнуцца ў амбасаду Расеі і атрымаць бізнесавую візу на наступны год. Дома праз камеру ўбачыла, што ў яе маскоўскім офісе разгульваюць людзі ў масках, прысутная фірмовая юрыстка, якая адчыняе ім усе шафы з дакументамі, а вобыскам кіруе заіклівы чалавек у цывільным, сябра Дзюбайлы. Вікторыя патэлефанавала ў офіс. Аказалася, што пошук дакументаў праходзіць без ордара, а робіць гэта нейкі Радаў, шышка ў паліцыі і пракуратуры па скарбовых справах, блізкі сябра Дзюбайлы. «У нас няма і не будзе ордара, мне яго не трэба, у нас ёсць усё, што нам патрэбнае — вашы дакументы дала нам ваша пані адвакатка». Гэтыя дакументы, асабліва злашчасны кантракт, падпісаны Вікторыяй Лоскай і Дзюбайлам, былі адзінымі арыгінальнымі дакументамі ў справе Вікторыі Лоскі ў сфабрыкаваным працэсе супраць яе. Быццам бы «невядома калі, невядома дзе і невядома якія рэчы, неналежныя ёй, прадала яна невядома каму». «Эканамічны» параграф 159, частка 4 абвінавачвае яе ў махлярстве, хабарніцтве і іншых эканамічных злачынствах. Але ў выпадку непаразуменняў, спрэчкі паміж кампаніямі можа судзіць арбітражны суд!

Што супраць яе вядзецца ў Маскве следства, Вікторыя Лоска не ведала некалькі гадоў. Сваю фірму, нязадольную працаваць, замарожвае. Вяртаецца ў Польшчу, да мужа. Пакуль яшчэ ёсць у Маскве, з'яўляецца сведкам у іншай справе. Не ведае, што Радаў пачаў следства супраць яе, аднак, пракуратура Масквы адхіліла абвінавачанні супраць яе па прычыне адсутнасці прыкмет крымінальнага злачынства ў яе дзейнасці. «Усеруцца, а цябе схочуць пасадзіць!» — кажа ёй прысутны тады ў судзе адвакат. Вікторыя спакойна едзе дадому ў Польшчу. Тым не менш, за ёю сочаць, што маецца ў справаздачах напісаных пра ўсе яе рухі ў Расіі. Вядома паліцыі, куды яна ездзіць, якія мае білеты, у якім вагоне едзе ды на якім месцы. Калі едзе яна ў Калінінград у ці ў Польшчу. А калі не сядае ў той пазначаны вагон, значыць, хаваецца! Нягледзячы на тое, што вядомы ейны адрас і нумар тэлефона ў Польшчы, не атрымлівае ніякіх позваў, каб з'явіцца ў паліцыю або ў суд у Маскве. Як адзначаецца ў дакладах, так Вікторыя Л., грамадзянка Польшчы, хаваючыся ад расійскіх улад, пераступае расійскае заканадаўства. Калі праз шэсць гадоў з'яўляецца на мяжы Расіі, едучы да свайго бацькі, яе арыштуюць.

Вікторыю Лоску садзяць у арышт у Калінінградзе на 15 сутак, а затым пераводзяць у жаночую турму. Аднак невядома ёй па якіх прычынах, таму што афіцыйна не прад'яўляецца ёй абвінавачванне супраць яе. Амбасада Польшчы дапамагае ёй знайсці адваката. Перавозяць яе на самалёце ў СІЗА — следчы ізалятар у Маскве. У судзе бачыць як гледача на справе Дзюбайлу. Суддзя, вядучая справу, звяртаецца да яго: «Вадзім, занясі свой ноўтбук у мой офіс» (гэтая суддзя пасля двух гадоў сама будзе асуджана за карупцыю). Вікторыя Лоска не прызнаецца да абвінавачванняў, вылучаных супраць яе і віны ў злачынстве, якое нібыта зрабіла.

У ізалятары «Шосты Цэнтрал» некалькі чалавек, у тым ліку Радаў, спрабуюць пераканаць Лоску, каб прызнала сваю віну, абяцаючы, што калі яна сама падпарадкуецца пакаранню, атрымае прысуд на некалькі гадоў, але ў бліжэйшы час будзе ўмоўна вызвалена і адпраўлена дадому.

Вікторыю Лоску асудзілі на сем гадоў і адправілі этапам у турму ў Мардву, у «выпраўленчую калонію» для жанчын, у зону № 14, якая была пабудавана ў трыццатыя гады пры ўладзе Сталіна. Сёння лічаць яе горшай турмой у свеце. Вадзім Дзюбайла тым часам вядзе свой варты мільёны долараў бізнес, сярод іншага, з выкарыстаннем актываў кампаніі Вікторыі Лоскі і іншых, якіх «пасадзіў» (нават выхваляўся гэтым перад Лоскай, калі ён быў яе партнёрам), а затым прадае фірму, вінаватую Вікторыі Лосцы мільён долараў і засноўвае новую. Пра доўг у мільён долараў — канцы ў ваду. А былая бізнес-партнёрка жывая не выйдзе з таго месца!

Вікторыя Лоска ідзе ў «заслужаную» палітычна калонію сярод балот у Мардоўскай Рэспубліцы. Толькі 58 жанчын сядзяць тут па эканамічных параграфах, астатнія жанчыны «кратныя» — забойцы, наркаманкі, дылеркі наркотыкаў, бандыткі. Нядаўна сядзела тут Наталля Талаконнікава з «Pussy Riot», сусветна вядомая спявачка, вязень сумлення. Ёй атрымалася выпусціць якую-небудзь інфармацыю з гэтага страшнага месца, дзе сярод баракаў з трыццатых гадоў знутукоўца над асуджанымі людзі жыўцом са сталінскай эпохі, ствараючы паміж заключанымі сваю сетку інфарматараў. Таксама сярод турэмшчыц здараюцца жорсткія, злыя, жадаючыя адпомсціць за свой лёс на калегах, якія даходзяць сваім шляхам да своеасаблівай улады — гэта «старшыны» і іншыя супрацоўнікі. Але ёсць сярод іх людзі, якіх не можа знішчыць гэтае страшнае, жорсткае месца. Праз некаторы час Вікторыя Лоска становіцца старшыной чацвёртага атрада, спрабуючы навесці там парадак і чысціню не толькі ў будыніне, але і ў душах. Жыве, працуе, любіць, кахае. Змагаецца за справядлівасць, таксама ў сваёй справе. Пытаецца, дыскутуе, скардзіцца, але ні адна з яе скаргаў не пакідае муроў зоны, хаця ўсе лісты маюць пасведчанне выхаду. Абяцае напісаць кнігу. Першую такую з гэтага жудаснага месца і часу. Хоча апісаць як мага больш дакладна гэтае месца, асяроддзе, людзей, іх лёсы, лады паміж імі, любоў і дружбу, дабро і зло, прыроду і жывёл, якія «прысуджаны да пажыццёвага зняволення» ў гэтым дзікім і забытым месцы, але якія выратоўваюць людзей сваёй прысутнасцю і любоўю. Як кошка Марта, якую Вікторыя Лоска мусіла была пакінуць у турме, калі раптам хтосьці «зверху», нарэшце, дабраўся да сфальсіфікаваных абвінавачванняў. Пасля чатырох гадоў, трох месяцаў і пятнаццаці дзён Вікторыя Лоска была вызвалена ўмоўна і загадалі ёй «убрацца» з Расіі і падацца ў сваю краіну. Найлепш, каб увогуле не вярталася ў Расію, а тым больш змагалася за сваю страчаную маёмасць, імя і ... падаткі, якія павінна ўсё ж заплаціць за той час, калі яе фірма павінна была працаваць, таму што была дастаткова добра афіцыйна зачынена. Яна ўзяла з сабой толькі дачку Марты — Чучундру. І ўспаміны. І гатоўнасць дапамагчы калегам, якія засталіся ў зоне нумар 14. І кнігу, якую напісала за два гады. Першую АДТУЛЬ. Думка пра яе таксама памагла ёй выжыць і вярнуцца на волю.

— Непатрэбна яна тую кнігу напісала, — кажа ўласніца транспартнай фірмы з Беластока Магжажата З. — Добра, што яе яшчэ не залілі асфальтам, як маю знаёмую бізнесменку з Беластока, якая надумалася паехаць па грошы за свае тавары, прададзеныя ў Маскве яе «супольнікамі». І грошай не вярнула, і жыццё страціла. Той Дзюбайла далей «шэры кардынал» са шчупальцамі ў расійскай пракуратуры і паліцыі, а інфармацыю пра яго шматлікія фірмы можна знайсці проста ў інтэрнэце. І ўсё ж такі хтосьці з вярхоў расійскай улады не даў замесці справу пад дыван, праўда, пазнавата, дык Вікторыя не павінна пісаць нічога кепскага пра Расію.

— Але ж праўду пішу ў гэтай дакументальнай кнізе, без прыхарошвання, але і без лішняй рэзкасці. Хаця гэта кніга — проста бомба!

— А што, будзе спакойна сядзець у родным гарадку над Балтыкай і пячы тарты? Не такіх гераяў як яна падкармілі «навічком». Мурашкі бягуць мне па спіне.

Як думаеце, мела рацыю Вікторыя Лоска, што адважылася напісаць сваю кнігу «Котка ў чырвонай зоне»?

Міра ЛУКША

## Памяркоўнасць і адвага

Нядаўна атрымаў я з рэдакцыі „Нівы" выдатную кніжку „Па Прыпяці па Нобель" пяра нашай журналісткі і пісьменніцы Ганны Кандрацюк з яе аўтографам. За ўсё сардэчна дзякую, так аўтарцы, як і рэдакцыі. Ведаем, што ў 2015-2017 гадах гэтая аповесць-рэпартаж была друкаваная ў пачарговых адрэзках п.з. „У палескай глыбінцы" і я пільна яе чытаў. Але такое чытанне складанае і патрабуе многа часу, каб канчаткова дабрацца да мэты — на гэта спатрэбілася аж тры гады. А вось кніжку я прачытаў за няцэлы тыдзень і хачу коратка падзяліцца сваімі ўражаннямі і ацэнкай прачытанага; кніга вартая пахвалы...




Сапраўды, Ганна Кандрацюк з'яўляецца таленавітай аўтаркай, адважнай як казачка, нідзе яна не заблудзілася на дзікіх яшчэ прасторах украінскага Палесся, шукаючы вытокаў славутай ракі Прыпяць. А пачатак яе недзе на канцы свету, і Ганна, як праўдзівая падарожніца і пісьменніца, крочыць гэтым цярністым шляхам па бездарожжах, балоце, невыгодах, сузіраючы як людзі бедна жывуць там, на Украіне, дзе працякае рака Прыпяць і яе прытокі; і не падае духам. У яе вялікі Божы дар размаўляць з людзьмі — яны для яе не толькі героі, але і сапраўдная геаграфічная карта. А там, дзе бедна жывуць — там больш любві і спагады чалавеку. Калісь і ў нас гэта было, але — на жаль — прамінае...

Ганне Кандрацюк прыйшлося перанесці розныя нястачы і прыкрасці, але нідзе не пахіснулася духова, і як воін ішла наперад, каб пераможна завяршыць сваю вандроўку. А там, па вёсках украінскага Палесся, людзі скрытыя і не надта ахвотныя на шчырасць, і мо з гэтага вынікае добрая звычка: менш плётак і дурных выдумак сярод гэтых людзей, якія ўсебакова дапамагалі Ганне, не шкадуючы частавання, начлегаў і добрых парад.

У сваёй кнізе аўтарка шмат месца прысвячае розным паляшуцкім народным абрадам — загаворам, лячэнню шаптух, чарам і таму падобнаму. Нават цытуе цэлыя вершы гэтых лячэбных загавораў — хто гэтай справай зацікаўлены, можа імі пакарыстацца і стаць нават „доктарам". Такім, як Ганна з Руткі, але яе „малітвы" я калісьці выпадкова, як пісьманосец, пачуў з сеняў, а там слоўцы „гаў..." раз за разам сыпаліся. І дзіўна: з цэлай Польшчы да Ганны з Руткі ехалі людзі навалам — дзіўны народ і ў нас.

Але я ніколі не верыў і не веру ў ніякія шаптушыны загаворы, нічуць не веру ў аніякія чары. Бо мая вера, рэлігія, супраць гэтай цемры і нячыстых сіл. Бо ў многіх месцах Бібліі напісана ясна: не верыць у ніякія чары і забабоны, бо гэта вялікі грэх. І я трымаюся гэтага запавету.

Ганна Кандрацюк у сваіх вандроўках па бездарожжах, бяссонніцах і нястачах дасягнула сваю мэту. Пазнала яна добрых людзей, знайшла верных сяброў, так сярод простага народа, як і сярод вучаных людзей.

А сама рака Прыпяць? Гэта ўжо не тая рака і бальшавікі яе змарнавалі, як і цэлае Палессе. Але і ў нас амаль тое самае; і ў нас прырода не тая, што калісь была.

Варта прачытаць кнігу Ганны Кандрацюк, варта чытаць „Ніву".

**Мікалай ПАНФІЛЮК**



Ганна Кандрацюк (zorka@niva.bialystok.pl)
www.e-zorka.pl

# зорка
для дзяцей і моладзі




# Паэты Нараўчанскай гміны

На Сустрэчах «Зоркі» мы паехалі на экскурсію па Нараўчанскай гміне. Мы хацелі пабачыць дамы і месцы, у якіх жылі і выхоўваліся вядомыя паэты. Найперш мы паехалі ў Тарнопаль, на хутар, дзе жыў Уладзімір Гайдук. Мы дабіраліся праз лес. Па дарозе запісвалі назвы раслін і звяроў. Тут былі лані, зайцы, вавёркі, ластаўкі, буслы, дзятлы. На коміне хаты Уладзіміра Гайдука была нават буслянка...

Адтуль мы рушылі ў Бандары, дзе стаіць вельмі прыгожая хата Алеся Барскага.

Далей наш маршрут вёў у вёсачку Баравыя, дзе нарадзілася Міра Лукша. Цяпер там жыве яе брат, разам з сабачкам. Мы ўбачылі старую ліпу, пра якую Міра Лукаша напісала верш.

Паэтка мае шмат вершаў аб мясцовым краявідзе і калі мы праязджалі праз Баравыя, назіралі за прыродай. У лесе раслі папараць, ягады-чарніцы, суніцы, а на палях і лугах — макі, васількі, ландышы, крываўнік, канюшына...

Далей мы завіталі ў Гушчэвіну, каб там пабачыць хату архіепіскапа Сімана, які пісаў лірычныя апавяданні па-беларуску.

Шлях нашай пушчанскай экскурсіі склаў 37 кіламетраў! Я — жыхарка Семяноўкі, і вельмі ганаруся, што ў нас столькі знакамітых паэтаў і літаратараў!

*Аня Радзівончык, «Бусел», ПШ у Нараўцы*




# Мой герой — добры чалавек!

Мы мелі сустрэчу з журналістам Зміцерам Косціным, які ў прыватнасці з'яўляецца маім татам. Мае сябры, калі яго ўбачылі — пыталіся:



— Колькі яму гадоў?

Многія здзівіліся, што ён мой бацька, гаварылі:

— Ён такі малады!

Тата распавядаў пра тое, як стаў свядомым беларусам. Гэта адбывалася ў гады, калі ён быў ужо амаль дарослым. Некаторыя адказы майго бацькі мяне здзівілі. Я ніколі пра гэта не чуў, хаця мы няраз шчыра размаўлялі. Напрыклад, кім ён хацеў стаць, будучы ў нашым узросце? Толькі цяпер я даведаўся, што ён спачатку хацеў стаць гісторыкам, але пазней яго зацікавіла юрыспрудэнцыя і паліталогія.

З усіх пытанняў, якія ставілі яму мае сябры, найбольш здзівіла мяне наступнае: ці хацеў бы вярнуцца жыць у Беларусі?

Бацька адказаў што мае досвед у праязджанні ў іншую краіну і ўсюды мог бы жыць, нават у Аўстраліі. І ўсюды дзе б не жыў, ён застаўся б сабой — беларусам.

Мне асабліва спадабалася тое, што мой тата на пытанне, хто з'яўляецца для яго беларускім героем, адказаў, што не мае канкрэтнага героя. Для яго героем, так як і для мяне, з'яўляецца добры, нават самы просты чалавек, не важна, якой ён нацыі.

**Кандрат Косцін,** «Белы лес», ПШ № 4 у Беластоку

## УВАГА КОНКУРС! № 30-18

**Віселі на градцы**
**Сакаўныя братцы.**
**Доўгія, шурпатыя,**
**Вітамінаў шмат у іх.**
**Г....**

**(Міхась Пазнякоў)**

Разгадайце загадку, адказ дашліце ў „Зорку" да 5 жніўня 2018 г., найлепш па электроннай пошце. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

## Загадкі з роднай хаткі

**Адказ на загадку № 26-2018: крапіва. Узнагароду, фламастары, выйграў Дам'ян Карнілюк з Бельска-Падляшскага. Віншуем!**



# Гуманісты больш бачаць

*Гутарка-інтэрв'ю з ліцэісткай* ***Магдай Бяляўскай****, наймалодшай сяброўкай літаб'яднання «Белавежа».*

**Рэдакцыя «Бусел»: — Калі беларуская мова стала для Цябе важнай?**

**Магда Бяляўская:** — Я заўсёды адчувала сябе беларускай, але ў пэўны момант я адчула, што трэба ісці ў гэтым кірунку. І пэўна гэта быў момант, калі я была ў гімназіі і пачала гаварыць па-беларуску. Усё дзякуючы спадарыні Анне Кандрацюк, маёй настаўніцы. Усё тады памянялася і беларуская мова стала для мяне вельмі важнай.

**«Бусел»: — Творчасцю якіх беларускіх паэтаў Ты захапляешся і хто для Цябе з'яўляецца самым цікавым паэтам?**

**Магда Бяляўская:** — Я заўсёды кажу, што мая любімая беларуская паэтка гэта Наталля Арсеннева. Калі я чытаю яе вершы, тады я адчуваю сувязь паміж намі. Думаю, што яна мела такія пачуцці, як я часам маю. Я стараюся крышку пісаць пад Арсенневу.

**«Бусел»: — Каму Ты прачытала свой першы верш?**

**Магда Бяляўская:** — Гэта цяжкае пытанне. Першыя вершы я пісала для сябе. З маімі вершамі ёсць так: калі ўзнікне нейкая думка, я доўга выношваю яе, пакуль верш даспее ў маёй галаве. Напісанне верша займае мне некалькі месяцаў. Першыя вершы я пісала для сябе, а першай асобай якая іх пачула, была мая сястра.

**«Бусел»: — Ці Ты пайшла ў гуманітарны клас у ліцэі?**

**Магда Бяляўская:** — Так, я ў ліцэі выбрала гуманітарны клас. Тут мушу сказаць, што многа людзей кажа, што гэта дрэнны кірунак. Я думаю, што нельга так казаць, бо не кожны можа вывучыць матэматыку, таму трэба выбіраць такі кірунак, які адпавядае нашым здольнасцям і зацікаўленням. Людзі кажуць, што выпускнікі гуманітарных кірункаў будуць працаваць у «МакДональдс». Тады я заўсёды кажу, каб паказалі мне асобу па гуманітарным кірунку, якая там працуе. Думаю, што кажуць так людзі зайздросныя. Мы, «гуманы», маем іншы погляд на жыццё, у нас больш артыстычны погляд на свет, бачым свет літаратуры, свет мастацтва, свет ідэй. А людзі, якія вывучаюць матэматыку, фізіку, хімію — гэта людзі больш простыя.

**«Бусел»: — Які Твой літаратурны герой?**

**Магда Бяляўская:** — Не, думаю што ў мяне няма такога героя. Цяжка мне цяпер выдумаць штосьці такое, але думаю, што ў мяне героя няма.

**«Бусел»: — Ці была Ты на нейкай паэтычнай сустрэчы? А калі так, якія паэты найбольш цябе ўразілі?**

**Магда Бяляўская:** — Найбольш такіх жывых спатканняў з паэтамі было на Сустрэчах «Зоркі». Яны мне падабаліся. Памятайце, паэты гэта вельмі цікавыя людзі і заўсёды варта іх слухаць. Яны маюць свой погляд на свет. Я не магу сказаць пра нейкую адну самую цікавую сустрэчу, бо кожная мне вельмі падабалася.

**«Бусел»: — Што Ты адчувала, калі выдатныя «белавежцы» дацанілі Тваю працу і прынялі цябе ў літаб'яднанне «Белавежа»?**

**Магда Бяляўская:** — Гэта, напэўна, вялікі гонар, бо мне тады было пятнаццаць гадоў. Быць разам з «белавежцамі» ў такой сувязі гэта штосьці цудоўнае. Спелыя творцы дацанілі такую малую дзяўчынку! Яшчэ не магу сказаць пра сябе, што я «белавежац», але напэўна ёсць ужо нейкая сувязь.

**«Бусел»: — Як Ты адзначала 25 Сакавіка?**

**Магда Бяляўская:** — На жаль, я не магла паехаць з сябрамі святкаваць у Беласток. Але гэта вельмі важнае для беларусаў свята.

**«Бусел»: — Ці Ты, сябра «Белавежы», маеш нейкія прывілеі ў сваім ліцэі?**

**Магда Бяляўская:** — Не маю прывілеяў, нават мушу сказаць, што не маю шасцёркі па беларускай мове. У ліцэі зусім іншы свет, чым у гімназіі. У маім класе большасць вучняў не вывучала беларускай мовы і мы пачалі толькі што вывучаць літаркі.

**«Бусел»: — Дзякуем за размову!**

**Магда Бяляўская:** — Дзякую!

***Інтэрв'ю падрыхтавалі і апрацавалі Мікола Здрайкоўскі, Вікторыя Гаць, Юстына Бакуменка, Аня Радзівончык, Дар'я Несцярук, Уладзік Кутузаў, Юля Грэсь.***

Паўліна Ёдла,
«Белы лес», бельская «тройка»

## Васількі

Сінявокія васількі
іх на жаль, вельмі мала.
Выглядаю іх, як заўжды,
у чэрвені і ліпені.
І кожны раз калі ўбачу,
у сэрцы радасць загарае:
васількі, мае васількі,
я вас доўга чакала,
у памяці назаўжды,
як паміж вамі гуляла.

## Польска-беларуская крыжаванка № 30-18

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы, з наклееным кантрольным талонам, на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку". Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку № 26-2018:**

Наваколле, жаба, ом, дождж, хмара, Нарва, дрон. Сход, паж, вада, набор, кажан, жара, ало, сем, мак.

Узнагароды, аўтаручкі, выйгралі **Магда Якубюк** і **Дам'ян Карнілюк** з Бельска-Падляшскага. Віншуем!

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Okno | | | | | Śpiew | Łów | | Pył / Cherson |
| | Zadanie / Karp | | Karp / Pałac | Słuch | | | | |
| | | | | Siedem | | | | |
| | Zasiew | | | | | | Pole | |
| | Ha! | Lew | | | | As / Jał | | |
| Gram | | | | | Ono | | | |
| | | Bierz | | Naleśnik | | | | |




# 15 гадоў беларускаму калектыву «Калебка»

**У 2003 годзе наш садок атрымаў грант ад Грамадзянскага цэнтра адукацыі Польшча-Беларусь у Беластоку і мы за гэтыя сродкі збудавалі на прадшкольнай пляцоўцы невялікія драўляную вясковую хату, калодзеж, вятрак і абгарадзілі іх. Там нашых дзетак мы сталі знаёміць з вясковай архітэктурай і вучыць іх нашым традыцыям. Менавіта тады завязалася група дашкольнікаў якім я, Ала Супрун, Галіна Андрасюк і Люцына Заёнц, карыстаючыся сродкамі са згаданага гранта, сталі ладзіць сустрэчы, падчас якіх дзеткі знаёміліся з нашымі традыцыямі і вясковымі рамёствамі. Дало гэта пачатак калектыву, які стаў выступаць з беларускімі песнямі, развучваць нашы прымаўкі, вершыкі, танцы, а пазнейшых удзельнікаў нашага калектыву сталі мы вучыць беларускай літаратурнай мове і нашым гаворкам. Карыстаючыся вопытам настаўніц і бацькоў Дзіцячага садка № 14 у Беластоку, з якім наладзілі мы цеснае супрацоўніцтва, сталі мы разгортваць дзейнасць нашага калектыву, які з часам назвалі «Калебкай», — удакладніла настаўніца Самаўрадавага садка № 1 у Гайнаўцы Міраслава Ніканчук, якая ўжо 15 гадоў вельмі ўдала займаецца з беларускім калектывам разам з Алай Супрун.**

Святкаванне юбілею 15-годдзя дзейнасці беларускага калектыву дашкольнікаў «Калебка» адбылося 28 чэрвеня ў Музеі і асяродку беларускай культуры ў Гайнаўцы. На музейнай плошчы сабраліся члены калектыву «Калебка» з бацькамі, бабулямі і астатнімі сямейнікамі ды працаўнікі Самаўрадавага садка № 1 у Гайнаўцы з дырэктар Ірэнай Гапунік на чале. Прыбылі запрошаныя калектывы іншых гайнаўскіх прадшколляў з настаўніцамі. Падчас юбілейнага канцэрта сталі заходзіць жыхары горада, каб паглядзець выступленні дашкольнікаў — спевакоў і танцораў. Сярод запрошаных гасцей былі, між іншым, бургамістр Гайнаўкі Ежы Сірак і намеснік старасты Гайнаўскага павета Ядвіга Дамброўская, кіраўнікі гарадскога і павятовага аддзяленняў адукацыі — Іаланта Стэфанюк і Эва Цеслік, войт Гайнаўскай гміны Люцына Смактуновіч, дырэктар Пачатковай школы № 3 у Гайнаўцы Галіна Пустэльнік, дырэктар Непублічнага прадшколля імя святых Кірыла і Мяфодзія ў Гайнаўцы Анна Мускала, дырэктар Прадшколля № 2 у Гайнаўцы Івона Рашкевіч, дырэктар ГДК Расціслаў Кунцэвіч, дырэктар Гайнаўскага белмузея Тамаш Ціханюк, дырэктар Музея малой айчыны ў Студзіводах Дарафей Фіёнік і кіраўнік студзіводскага калектыву «Жэмэрва» Анна Фіёнік. На святкаванне прыбылі таксама госці ад Самаўрадавага садка № 14 у Беластоку з Барбарай Пякарскай, метадыст па навучанні беларускай мове Іаланта Грыгарук, настаўнік беларускай мовы ў Гайнаўскім белліцэі Ян Карчэўскі.

Выступы перад шматлікай публікай пачаў танцавальны калектыў Комплексу школ з дадатковым навучаннем беларускай мове ў Гайнаўцы, якім кіруе Вольга Вілюк. Яна паспяхова працуе з калектывам звыш года. У апошнім школьным годзе Вольга Вілюк паспяхова вучыла танцам дашкольнікаў з калектыву «Калебка», здабывала матэрыялы па беларускім фальклоры, беларускай музыцы і разам з настаўніцамі Міраславай Ніканчук і Алай Супрун вучыла іх беларускім песням, прадстаўленням і дапамагала рыхтавацца да выступленняў. Сабраных прывітала дырэктар Прадшколля № 1 у Гайнаўцы Ірэна Гапунік, якая коратка распавяла пра пачаткі дзейнасці калектыву «Калебка» і назвала настаўніц, Міраславу Ніканчук, Алу Супрун, Галіну Андрасюк і Люцыну Заёнц, якія першапачаткова працавалі з групай дашкольнікаў, што стала вучыцца беларускім традыцыям, народным рамёствам, а пазней стала выступаць з беларускімі песнямі, праваслаўнымі калядкамі і тэатральнымі прадстаўленнямі на беларускай мове. Юбілейнае беларускае мерапрыемства ўдала вяла Марыёля Герман-Петручук, вядомая публіцы на Гайнаўшчыне як вядучая многіх беларускіх імпрэзаў і як салістка вакальна-інструментальнага калектыву «Арт-Пронар» з Нарвы. Паміж выступамі больш падрабязна распавяла яна пра дзейнасць калектыву дашкольнікаў «Калебка. Пра 15 гадоў дзейнасці беларускага калектыву «Калебка» распавялі таксама Міраслава Ніканчук і Ала Супрун, якія на працягу гэтага перыяду займаліся з паасобнымі групамі дашкольнікаў.


Супольныя гульні паводле беларускіх мясцовых традыцый. На першым плане настаўніца Міраслава Ніканчук

Дзеткі з «Калебкі» запрэзентаваліся перад гайнаўскай публікай займальна, выходзілі перад яе многа разоў і за кожным выступам сабраныя моцна апладзіравалі дзеткам. Дашкольнікі адважна і роўна спявалі беларускія песні, стройна запрэзентавалі беларускія народныя танцы і былі рады, што публіка так радуецца іх выступам. Пасля выступленняў дашкольнікі з «Калебкі» маглі адпачыць і паглядзець іншых выканаўцаў.

— Мы любім спяваць, танцаваць і выступаць перад публікай. Мы нядаўна выступалі ў іншых месцах, бо любім гэта рабіць. Сёння прыйшлі нашы мамы і таты, якія нас пахвалілі за спеў і танцы, — заявілі найбольш адважныя дашкольнікі.

— Нашы дзеткі вучацца беларускім песням, абрадам і знаёміліся з вясковымі заняткамі з мінулага. Вельмі важнай нам была супраца з Прадшколлем № 14 у Беластоку, у якім раней пачалася вучоба нашым абрадам, беларускай мове і культуры. Я наладзіла супрацу з Барбарай Пякарскай, Алінай Ваўранюк, Тамарай Карнілюк і з іншымі настаўніцамі і бацькамі, згуртаванымі ў Аб'яднанні АБ-БА ў Беластоку, ад якіх мы вучыліся, як разгарнуць дзейнасць калектыву «Калебка». Мы тады прымалі ўдзел у аглядзе культур нацыянальных меншасцей у Беластоку і ад тамашніх настаўніц і бацькоў дашкольнікаў атрымалі многа парад і дапаможнікаў па беларускай мове, культуры і нашым традыцыям. Вельмі цікавымі нашым дзеткам былі майстар-класы, падчас якіх запрошаныя майстрыхі і майстры паказвалі, як у мінулым выконваліся вопратка і прылады працы. Нашым дашкольнікам вельмі падабаюцца выступы падчас «Мастацкіх сустрэч школьнікаў», «Пікніка з беларусам», «Культуры на музейных сходах», «Сустрэч з праваслаўнай калядкай», калі нашы дзеткі прэзентуюцца перад публікай, — расказала настаўніца Міраслава Ніканчук.

— Я люблю спяваць, іграць на акардэоне і таму мне вельмі падабаецца праца з дзеткамі з калектыву «Калебка». Іграючы на акардэоне, я часта састаўляла акампанемент для дашкольнікаў як падчас заняткаў, так і выступленняў перад публікай, — сказала настаўніца Ала Супрун.

На юбілейнае мерапрыемства прыбылі бацькі дашкольнікаў, якія выступалі каля музея.

— Нашы дзеці, якія займаліся і займаюцца ў калектыве «Калебка», вучыліся тут беларускай мове, культуры, нашым традыцыям і беларускасці ў іншых праявах, чаму мы вельмі рады. У гэтым калектыве так файныя заняткі і атмасфера, што нашы дзеткі вельмі ахвотна прымаюць удзел у дзейнасці калектыву, — гаварыла Юсцінія Мінько, якой дзве дачкі займаліся ў беларускім калектыве «Калебка».

— Мая дачка Оля ў калектыве «Калебка» вучылася правільна спяваць, а пасля стала займацца ў Студыі песні ГДК і зараз выступае таксама ад Пачатковай школы № 3 у Гайнаўцы, — заявіў Міраслаў Мілішэўскі.

Займальна запрэзентаваліся таксама гайнаўскія калектывы Самаўрадавага садка № 3 і Непублічнага прадшколля імя святых Кірылы і Мяфодзія, якія атрымалі гарачыя апладысменты. З беларускімі песнямі ўдала выступіў школьны беларускі калектыў «Сунічкі» з Белавежы, якому акампанемент на акардэоне саставіў музычны інструктар Белавежскага асяродка культуры Марк Зубрыцкі. Па-беларуску спявалі таксама Вераніка Пташынская, Аляксандра Воўчык і іншыя салісткі. Хаця спачатку выступаў пачаў ісці дождж і публіцы трэба было хавацца пад парасонамі, неўзабаве надвор'е палепшылася і стала спрыяльным для пленэрнага спявання і гуляння.

Госці, а ў іх ліку і самаўрадаўцы, павіншавалі дзетак калектыву «Калебка» і іх настаўніц з 15-гадовым юбілеем і перадалі юбілярам кветкі і падарункі. Спадарыня Юсцінія Мінько з іншымі мамамі публічна павіншавалі настаўніцу Міраславу Ніканчук з іншым святам — пяцідзесяцігоддзем з дня нараджэння і перадалі ёй кветкі і падарунак. Перад публіку выйшла кіраўнік студзіводскага калектыву «Жэмэрва» Анна Фіёнік, запрапанавала дашкольнікам і вучням супольныя гульні паводле беларускіх мясцовых традыцый і стала вадзіць карагод. Акампанемент на акардэоне для спеву і танцаў саставіў старшыня Аб'яднання Музей малой айчыны ў Студзіводах Дарафей Фіёнік, да якога далучыўся Марк Зубрыцкі з Белавежы. Пазней быў прывезены вялікі торт і ўгару ўзляцелі паветраныя шары. Да дзетак і моладзі далучыліся госці, бацькі і быў зроблены супольны здымак. Торт сталі кроіць і раздаваць усім удзельнікам святкавання. Пасля дзеткі сталі гуляць каля музея, а дарослыя госці перайшлі ў белмузейны будынак на пачастунак.

Тэкст і фота
**Аляксей МАРОЗА**

# Прагулка па мяжы




Пагулянка гэта зараз агульны тапонім, ад якога я направіўся ў бок больш канкрэтнай дзяржаўнай польска-беларускай граніцы. З польскага боку жвіроўка пралягае ўздоўж тае граніцы, адгароджаная кволым калючым дротам. Як на далоні што нейкі адрэзак тае граніцы стаяць памежныя слупы, польскія і беларускія, акуратна насупраць сябе. Таксама што некалькі сотак метраў на акраіне дарогі пастаўлены інфармацыйныя памежныя табліцы...

На табліцах папярэджанні на чатырох мовах. Здаецца мне, што тыя папярэджанні былі пісаны аўтарамі з высокім блатным рэйтынгам. Бо што можа абазначаць фраза на *общепонятном языке* „Вы находитесь непосредственно государственной границы"? На мой толк тут павінна быць інфармацыя пра месца: *Вы находитесь где*? А месца тое *непосредственно* ***возле*** *государственной границы*. І чарговы „tumiwisizm" — *Landesgrenze*. Такую назву можна было даць трыста гадоў таму для граніцы Кароны з ВКЛ, якая пралягала недзе па тых мясцінах. Але сёння гэта граніца двух светаў, пакуль яшчэ з рознымі юрыдычнымі асновамі, таму, на мой толк, гэта *Staatsgrenze*... Усё ж такі пяцісотзлотавы штраф за яе парушэнне павінен развеяць усю тэрміналагічную кашу. На беларускай мове папярэджанняў няма і, магчыма, тыя папярэджанні не кранаюць беларусаў...

З беларускага боку сцяна лесу, у якой захаваліся лічаныя колішнія дарожныя прагаліны, цераз якія відаць шчыльную загароду з калючага дроту. Гэтак савецкія ўлады загарадзілі „граніцу дружбы", каб ніякія дружалюбцы не маглі яе перасячы...

Апошнім часам тыя загарадзі перасякаюць адвечныя пушчанскія жыхары — дзікі. І то з кантрабандай, з Беларусі ў Польшчу шмуглююць не абы-што — афрыканскую свіную чуму. З польскага боку чуваць патрабаванні ўзвесці чарговую загарадзь, гэтым разам каб ніякі дзік не мог яе перасячы. Але ж тая, што зараз ёсць, здаецца быць даволі шчыльнай. Адно толькі вядома, што дзікі гэта вельмі інтэлігентныя істоты і знаходзяць пралазы цераз граніцу лаўчэй чым людзі. А можа тыя пралазы ствараюцца з усходняга боку мэтанакіравалена, каб дзікі, у рамках гібрыднай усходне-заходняй вайны, неслі ў Польшчу афрыканскую свіную чуму, быццам нейкія іншыя істоты яд „навічок" у Вялікабрытанію. Можа сучасныя дзікі адыгрываюць ролі славутых старажытных траянскіх коней...

Памежная жвіроўка набліжаецца да Апакі. Вікіпедыя: „Вялікая Апака (па-польску: Opaka Duża, па-падляску: Opaka) — вёска ў Гайнаўскім павеце Падляскага ваяводзтва Польшчы. Знаходзіцца ў гміне Чаромха. Паводле польскага гісторыка Белавескай пушчы Атона Гэдэмана ў 16 ст. на месцы сённяшняй Апакі існавала вёска з дваром (магчыма зьвестка адносіцца таксама да Малой Апакі). У 19 ст. акрамя вёскі быў тут фальварак Пушкевічаў. У міжваенны пэрыяд прыналежала да гміны Вярховічы Берасьцейскага павету Палескага ваяводзтва. Пасьля Другой сусьветнай вайны плянавалася падзяліць вёску паміж Польшчай і Савецкім Саюзам, але па прашэньнях жыхароў поўнасьцю засталася ў складзе Польшчы. З 1950 году пачалася будова царквы ў гонар Нараджэньня Багародзіцы (дзейнічае з 1966 г.)...". Царкоўка абноўлена і высвечана ў 2015 годзе мітрапалітам Савам...

Вуліца Апакі перпендыкулярная да недалёкай дзяржаўнай граніцы. На першым ад граніцы панадворку сабарніска велічыні ялаўкі пагрозліва мне рвецца на плот. Выходзіць гаспадыня, суцішае сабаку. Пытаю пра суседні будынак, у якім зараз вясковая святліца, а раней была школа, у якой звыш шасцідзесяці гадоў таму навучала мая сястра. Жанчына, аднак, нетутэйшая, прыйшла яна сюды замуж з не надта адлеглай Баброўкі, якая таксама прымыкае ўпрытык да дзяржаўнай мяжы. Усё ж такі інфармуе мяне, што ў абноўленым святлічным будынку быў калісь жылы дом, уласнік якога пасля вайны пераехаў у Савецкі Саюз. Зараз у Апацы пражывае шаснаццаць душ.

Каля сарака гадоў таму Апаку наведаў Мікола Гайдук; пісаў ён тады: „Туды адусюль далёка: ад канцавой астаноўкі ПКСу ў вёсцы Палічна — 6 км, ад чыгуначнай станцыі Дабрывода таксама мала што менш. Але загубленая сярод пералескаў і пагоркаў, на самым скраю Польшчы — па загуменнях пралягае дзяржаўная граніца! — сяло Апака Вялікая з яго 37 гаспадаркамі і звыш сотняй жыхароў не стаіць у баку ад тых пераўтварэнняў, якія перажывае ўся наша краіна".



■ Царкоўка на могілках каля Вялікай Апакі

І далей: „Калі б заглыбіцца ў даўнасць тутэйшай зямлі, дык пагорак на левым беразе рэчкі Сіпуркі, на якім раскінулася сяло, напэўна пацвердзіў бы, што людзі насяляюць яго не менш тысячагоддзя. Вучоныя-мовазнаўцы знаходзяць у слове *апака* элемент *ап/оп*, што ў індаеўрапейскіх мовах калісьці меў значэнне *вада, рака*. Гэтаму доказ слова *апэ*, якое ў мове колішніх прусаў і таксама ў сучаснай літоўскай *упэ* абазначаюць *раку*, а ў літоўскіх гаворках *опэ* — значыць *гнойная балячка, рана*. Усё гэта якраз і вяжацца з балоцістай у ранейшыя часы Сіпуркай і двума яе безыменнымі прытокамі".

Вікіпедыя: „Сіпурка — рака ў Камянецкім раёне Берасьцейскай вобласьці, часткова ў Польшчы. У басэйне Заходняга Бугу. Пачынаецца на тэрыторыі Польшчы, за 5 км на захад ад яе мяжы зь Беларусьсю. Цячэ па паўночнай частцы Прыбужанскай раўніны. Вусьце за 200 м на поўдзень ад вёскі Стаўповіскі. У вусьці зьліваецца з ракой Палічнай і разам утвараюць раку Белую. Даўжыня 18 км. Рэчышча ў сярэднім і ніжнім цячэньні, на працягу 12 км (ад сажалкі каля аднайменнай вёскі Сіпуркі да вусьця) каналізаванае". Адкуль назва *Сіпурка*? Магчыма, што яе расліннасць разам з рухам вадзічкі і вецяркоў утварала дрымотнае сіпенне... Яшчэ трэба крыху паправіць Гайдука: Апака-Вялікая на правым беразе Сіпуркі.




Мікола Гайдук каля сарака гадоў таму: „У памяці апакаўскіх старажылаў захаваліся звесткі пра тое, што тут знаходзіўся панскі двор, а сама Апака была паншчыннай вёскай. І, магчыма, спакон веку асновай жыцця людзей было тут земляробства. Яшчэ і сёння тутэйшыя сяляне прытрымліваюцца стагоддзямі складўшагася традыцыйнага календара сельскагаспадарчых работ. Жыта, напрыклад, выходзяць сеяць на два дні перад *сэмэнно* (г.зн. Сымона — 14 верасня) і сеюць яшчэ некалькі дзён пасля гэтай даты. Пры гэтым стараюцца не сеяць у дзень *сэмэнного, бо жыто будэ пустое*. Раней з выхадам сейбіта ў поле быў звязаны каларытны абрад: першую каробку зерня свянцілі свянцонай вадой, што трымалі ў хаце яшчэ з вадохрышча. Як засеялі першую *рыззку* (палетак), на яе скраю садзілі *кветку* (жменьку каласкоў, што захоўвалі са жніва) і з саломы клалі крыж. Зажыналі жыта заўсёды ў аўторак. Дажынаючы жыта, рыхтавалі *пэрэпэліцю* — жменю нязжатага жыта звязвалі каля каласкоў, каласкі зрэзвалі сярпом, зямлю палолі з пустазелля і травы, *пэрэпэліцю* абкладвалі каменнем, у яе сярэдзіну клалі камень-плітняк, а на яго кавалачак хлеба, які зваўся заячым. Са зжатых каласкоў рыхтавалі кветку. Пры гэтым сыны або жанцы абливалі гаспадара вадой, каб збожжа на другі год было ядронэ, абвязвалі яго пярэвяслам, спявалі дажыначныя песні, а гаспадар запрашаў жанцоў на гасціну".

Інфармацыйны стэнд на абочыне вёскі: „Od kilkuset lat miejscowość ta, jak wiele innych w regionie, ma charakter graniczny. Obecnie leży bezpośrednio przy pasie granicznym, który chroni ziemię niczyją, faktycznie rozgraniczającą dwa państwa". Што гэтая фраза абазначае — *без водкі не разберэш*. І далей: „W czasach I Rzeczypospolitej (od 1569 r.) przez tereny, które obecnie leżą w gminie Czeremcha, przebiegała granica pomiędzy województwami brzeskim i podlaskim. Była ona jednocześnie granicą polityczną pomiędzy Koroną i Wielkim Księstwem Litewskim. Po III rozbiorze ta sama linia rozdzieliła Prusy i Rosję. W 1807 r., po włączeniu nowych ziem do imperium carskiego rozgraniczyła ona dwie jednostki administracyjne: nowo powstały obwód białostocki i gubernię grodzieńską. Po włączeniu obwodu do guberni (1842 r.) granica zniknęła na 77 lat. (...) Po 1945 r. alianci nie przywiązywali wielkiej wagi do tego, gdzie konkretnie zostanie wytyczona granica między Polską a ZSRR. Warto przywołać dwie opowieści dotyczące ustalania jej przebiegu. Pierwsza mówi o tym, że ówczesny premier Edward Osóbka-Morawski miał osobiście wynegocjować u Stalina aby 1/3 obszaru Puszczy Białowieskiej znalazła się po polskiej stronie. Według drugiej — mieszkańcy Opaki Dużej mieli wykupić wieś od przynależności do ZSRR za beczkę miodu".

Мабыць менш мёду было ў жыхароў Малой Апакі, якая апынулася ў межах СССР. Фрагменты з Вікіпедыі: „Малая Апака — вёска ў Камянецкім раёне Берасьцейскай вобласьці, уваходзіць у Вярховіцкі сельсавет. Месьціцца за 33 км на паўночны захад ад Камянцу, за 58 км на поўнач ад Берасьця, за 15 км на поўнач ад чыгуначнай станцыі Высока-Літоўск (лінія Берасьце — Беласток). За 500 м на паўночны захад ад вёскі праходзіць дзяржаўная мяжа Беларусі з Польшчай. Сярэдзіна XIX ст.: вёскі Вялікая і Малая Апака ў Берасьцейскім павеце Гарадзенскай губэрні Расейскай імпэрыі. 1845 год: паводле інвэнтара вёска Вялікая Апака, 4 двары, 33 жыхары, у складзе фальварка Апака маёнтку Капылы, уладаньне абшарніцы Караліны Пуслоўскай. 1897 год: паводле перапісу ў Вярховіцкай воласьці, у вёсцы Вялікая Апака (Мартынюкі) — 8 двароў, 67 жыхароў, у вёсцы Малая Апака — 25 двароў, 168 жыхароў, дзейнічалі кузьня, хлебазапасная крама, у аднайменным маёнтку (уласнасьць сельскага таварыства) — 17 двароў, 116 жыхароў. 1923 год: у вёсцы Вялікая Апака 18 двароў, 93 жыхары, у вёсцы Малая Апака 10 двароў, 53 жыхары. 1940 год: вёскі Вялікая Апака (на той час 275 жыхароў) і Малая Апака (177 жыхароў) у Бушміцкім сельсавеце Кляшчэлеўскага раёну Берасьцейскай вобласьці. 1970 год: 38 жыхароў, у калгасе імя Дзяржынскага. 1999 год — 4 жыхары. 2005 год — 3 гаспадаркі, 3 жыхары. 2010 год — 1 жыхар". Восем гадоў таму ў Малой Апацы жыў адзін чалавек. І наша Вялікая Апака здаецца быць сапраўды вялікай...

Тэкст і фота
**Аляксандра ВЯРБІЦКАГА**

З ☞працяг

лекар-дантыст. Набыў ён столькі гістарычных ведаў, што хіба адны акадэмікі ў змозе весці з ім гістарычныя спрэчкі. І вельмі любіць каралеву Бону і за сваю да яе любоў у адказ атрымаў аповед Ганны пра касцёл у Бары, дзе яна зараз перапахаваная, пра што можаце прачытаць у апошніх нумарах «Нівы». І нечакана звыш тры гадзіны сустрэчы прайшлі вокамгненна і незабыўна. На другі дзень нас чакаў Нобель.

Атрымаць літаратурны Нобель — мара кожнага пісьменніка. Даехаць у палескі Нобель, не разбіўшы і страціўшы машыну, мара кожнага шафёра, якога лёс закіне ў гэты бок. На жаль, зараз не даплывеш у Нобель. Застаецца ехаць па дарозе з базальтавых камянёў і па дамбе, якія аматараў экстрыму спачатку прыводзяць у добры гумар, але потым у адчайную роспач. Базальтавых вострых камянёў не вытрымае ніводнае кола і іншыя машынныя часткі. Застаюцца дарогі ў аб'езд, пра якія піша аўтарка, дапаўзаючы і выязджаючы з Нобеля.

Аднак назва мясцовасці магічна ўзнагароджвае ўсе перашкоды. Тое, што перажылі мы ў Нобелі, было вартае ўсяго падарожжа з яго ўсімі няззручнасцямі. Нават з тым доўгачасовым перасяканнем мяжы. Ганну тут віталі і цалавалі ўсе. Значыць, у час сваёй вандроўкі добра яна прыжылася з мясцовымі людзьмі. Але зараз як аўтарку кнігі таксама павіталі пірагом, соллю і кветкамі. Прыйшлі ўсе яе героі, светлыя і ў святочнай вопратцы, так як у нас збіраліся на сямейных гасцінах. А мы частку кніжак пакінулі ў другой машыне. На шчасце загадзя былі дасланы экзэмпляры і яны ўжо таксама былі разгледжаны тутэйшымі людзьмі. У вясковым клубе як за магічным дотыкам апынуліся мы ў краіне бязмежнай палескай гасцінасці, гаварлівасці і спеваў. Закружылася ў танцы сонца, хмары, дожджык вецер. Пах кветак, пяску, сосен, кароў і коней. І пасыпаліся анекдоты, успаміны і паліліся песні. Адкрыліся душы і чалавечыя струны. Спявалі ўсе, у тым ліку і ніжэйпадпісаны. Адкрыта і чароўна звінелі сукупныя галасы нобельскіх жанчын. Ой, умеюць сказаць. Але Ганна Кандрацюк даказала ўсім яшчэ адну сваю незвычайную ўмеласць. Як заспявала па-кутлоўску, то сцены клуба аж задрыжалі. Гэта была сапраўдная моц адкрытасці ейнага голасу. Думаю, што Сяргей Грахоўскі, наглядаючы за ўсім згары мог сказаць, што мы, беларусы, не падвялі яго ў роднай мясцовасці. Не падгаўнялі. Але кожнай гасціне ёсць свой канец. На другі дзень чакала нас доўгае падарожжа. З раніцы, за акном гасцініцы разбудзіла мяне падвойнае іржанне каня. Я не верыў уласным вушам ад шчасця. На дарогу і жыццё атрымаў нобелеўскую прэмію маладосці.



■ Аўтарка ў размове з гераінямі сваёй кніжкі ў Нобелі



■ На святочным абедзе ў бацюшкі Паўла Дубінца перад Марочанскай царквой

❖ Яўген ВАПА




# http://drewa.by

Калісьці нашы продкі будавалі выключна з дрэва. Цяпер мы выкарыстоўваем з большага зусім іншыя будаўнічыя матэрыялы, але ўзоры як старадаўняга, так і адносна сучаснага драўлянага дойлідства захаваліся дагэтуль. Гэтае лета ўжо адзначылася тым, што трое энтузіястаў паспрабавалі сабраць як мага больш узораў беларускай драўлянай архітэктуры і размясціць іх на адным сайце. Месяцца ён у інтэрнэце па адрасе **https://drewa.by.** „Сайт створаны пры супрацоўніцтве з Веткаўскім музеем стараабраднітцва і беларускіх традыцый імя Ф. Р. Шклярава vetka.museum.by

Калі вы з'яўляецеся аўтарам ці ўладальнікам размешчаных фотаздымкаў, паведаміце нам. Сяргей Ляпін, аўтар, Аляксей Чаранкевіч, дызайнер, Дзяніс Дзянісаў, распрацоўшчык", — такі даволі сціслы расповед змешчаны на старонцы сайта „Пра праект".

Будова сайта даволі арыгінальная. Так, нешматлікія выйсці на рубрыкі месяцца з левага боку цэлага выяўлення. Пасярэдзіне размешчана карта з ужо пазначанымі будынкамі, якія былі задакументаваны энтузіястамі. З правага боку здымкі будынка і яго апісанне.

Згодна карце, практычна ўсе чырвоныя кропкі, то-бок архітэктурныя цікавосткі, знаходзяцца на тэрыторыі Беларусі, але ёсць адна, што па-за яе межамі. Гэта праваслаўная царква Архангела Міхаіла ў вёсцы Трасцянка Гайнаўскага павета. Храм, як пазначана на сайце, пабудаваны ў стылі традыцыйнага барока ў 1867 годзе. „Першыя згадкі пра мясцовую царкву датуюцца 1676 г., сённяшняя царква была пабудаваная а. Рыгорам Сасноўскім у 1867 г. Пры гэтым святары ў Трасцянцы была заснаваная першая школа. З 1893 года ва ўрочышчы Ставок пад Трасцянкаю дзейнічала настаўніцкая семінарыя", — гаворыцца ў тэксце да некалькіх фотаздымкаў царквы, якія быў узяты аўтарамі сайта з Вікіпедыі.

Паводле Сяргея Ляпіна, задума стварыць падобны сайт узнікла з еўрапейскага прыкладу, дзе нават простыя драўляныя дамы захоўваюцца і рэстаўруюцца, становяцца часткай музеяў пад адкрытым небам. „Узнікла ідэя стварыць інструмент, з дапамогай якога было б вельмі зручна захоўваць фотаздымкі драўляных дамоў. Гэты матэрыял спатрэбіцца для даследчыкаў драўлянай архітэктуры, а таксама можа быць карысным для аднаўлення найбольш цікавых будынкаў", — распавёў ён беларускаму інфармацыйнаму парталу Tut.by.

Адтуль можна даведацца, што праца над сайтам вялася каля года, і яго стваральнікі нават наведвалі замежныя архівы, каб атрымаць патрэбную ім інфармацыю пра беларускую драўляную архітэктуру. Пры гэтым энтузіясты прызнаюць, што ўласных сіл ім не хопіць, каб ахапіць усю беларускую драўляную спадчыну, і таму заклікаюць на дапамогу тых, каму залежыць на захаванні інфармацыі аб драўляных аб'ектах. Дапамагчы стваральнікам сайта не цяжка. Дастаткова зайсці ў рубрыку „Дадаць аб'ект" і запампаваць фота будынка, а таксама апісаць згодна прапанаваных пунктаў. „Загружаны файл праглядаецца мадэратарам, правяраецца карэктнасць запаўнення аб'екта, калі трэба, мадэратар штосьці выпраўляе. Звычайна гэта адбываецца на працягу дня. Але тут ёсць праблема, бо на сайце не так шмат мадэратараў (ёсць з Гродна, Гомеля, Мінска). Калі выпраўляць аб'екты з Брэстчыны ці Віцебшчыны, могуць узнікнуць складанасці. Таму мы шукаем мадэратараў з іншых рэгіёнаў", — кажа Сяргей.

Дарэчы, сайт размечаны на тры моўныя версіі — беларускую, англійскую і рускую. Пакуль пазнаёміцца з яго зместам магчыма толькі па-беларуску.

❖ Аляксандр ЯКІМЮК

ДАТА З КАЛЕНДАРА ДАТА З КАЛЕНДАРА ДАТА З КАЛЕНДАРА ДАТА З КАЛЕНДАРА ДАТА З КАЛЕНДАРА



Падзеі і асобы БНР



## 110 гадоў з дня нараджэння

# Юркі Лявоннага

Беларускі паэт Юрка Лявонны (сапраўднае прозвішча Леанід Юркевіч) нарадзіўся ў 1908 г. у горадзе Чавусы на Магілёўшчыне. Паходзіў з сям'і дробнага службоўца. Пачатковую адукацыю атрымаў у Чавускай сямігодцы. Пазней вучыўся ў Магілёўскім педагагічным тэхнікуме. Далей паступіў у Мінскі педагагічны інстытут. Адтуль выключаны за распаўсюджванне „контррэвалюцыйных вершаў". Аднак Леаніду Юркевічу ўдалося аднавіцца на навучанне ў гэтай установе і ў 1934 годзе скончыць крытыка-творчае аддзяленне літаратурнага факультэта.

Друкавацца Леанід Юркевіч пачаў у 1924 г. Пісаў пад рознымі крыптанімамі, пад псеўданімам Леанідаў. Але найбольш карыстаўся псеўданімам Юрка Лявонны, пад якім і ўвайшоў у гісторыю беларускай літаратуры.

Першыя зборнікі паэзіі Лявоннага „Камсамольскія вершы" і „Штурм" выйшлі ў 1930 годзе, наступныя — „Жалезныя віхуры" і „Разбег" (1931), „Стала і мужна" (1932).

Лявонны — сябра Саюза пісьменнікаў БССР з 1934 года. Працаваў у рэдакцыях газет „Магілёўскі селянін", „Звязда", часопіса „Работніца і калгасніца Беларусі". Выдаў зборнік нарысаў „Крок пяцігодкі" (1931). Разам з Сяргеем Грахоўскім пераклаў на беларускую мову раман французскага пісьменніка Жуля Верна „20 000 лье пад вадой" (1937). Некаторыя вершы Юркі Лявоннага пакладзены на музыку кампазітарамі Міхаілам Чуркіным, Несцерам Сакалоўскім, Ісакам Любанам. Пасмяротна выйшаў зборнік вершаў „Выбранае" (1960).

Ва ўспамінах Сяргея Грахоўскага пра Лявоннага можна даведацца наступнае: „Ён гадзінамі чытаў па памяці Маякоўскага і Кірсанава, Ціханава і Лугаўскога. У яго быў тонкі густ да слова, да формы, а пра сябе ён часта гаварыў: „Сапраўднае я яшчэ напішу, значнае наперадзе...". Але жорсткі лёс і акупацыя Беларусі саветамі не дазволілі спаўніцца гэтым творчым планам.

Юрку Лявоннага арыштавалі 30 кастрычніка 1936 г. у Мінску па адрасе: вуліца Фурманская, дом 9. З падследных, якія праходзілі з ім разам на чарговым палітычным працэсе, толькі Юрка Лявонны не пацвердзіў, што Цішка Гартны „контррэвалюцыянер", „нацдэм" і таму падобнае. Пісьменніка засудзілі пазасудовым органам НКВД 28 кастрычніка 1937 г. як „члена шпіёнска-дыверсійнай арганізацыі" да вышэйшай меры пакарання (расстрэлу) з канфіскацыяй маёмасці. На наступны дзень Юрку Лявоннага ўначы расстралялі ў ліку іншых 22 беларускіх грамадскіх дзеячаў і літаратараў.

5 лістапада 1938 г. у Менску па тым жа адрасе была арыштавана бухгалтарка „Белсольэнерга" Яўгенія Гольдберг, жонка Юркі Лявоннага. 28 лістапада 1938 г. асобай нарадай НКВД засуджана як „член сям'і ворага народа" да 8 гадоў працоўна-папраўчых лагераў. Этапавана праз Оршу ў АЛЖИР (Акмолинский лагерь жён изменников Родины) НКВД Казахскай ССР. Вызвалена 5 лістапада 1945 г. Далейшы лёс невядомы. Рэабілітавана завочна 2 чэрвеня 1956 г. трыбуналам Беларускай вайсковай акругі. Сам Юрка Лявонны рэабілітаваны ваенная калегіяй Вярхоўнага Суда СССР пазней — 25 красавіка 1957 г. Асабістая справа пісьменніка захоўваецца ў архіве КДБ Беларусі.

❖ Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ

## XI Międzynarodowy Festiwal Muzyki, Sztuki i Folkloru
## PODLASKA OKTAWA KULTUR
## Białystok i województwo podlaskie, 25-29 lipca 2018

**25 lipca 2018 r. (środa)**
**Białystok**
godz. 18:00, plac przy Ratuszu
KURPIE ZIELONE (Polska), ŻEMERWA (Polska), PRNJAVOR (Serbia), SUSANNA JARA (Polska), BUM BUM ORKESTAR (Polska), PROJEKT „DUCH GÓR": TREBUNIE-TUTKI i URMULI (Polska-Gruzja)

**26 lipca 2018 r. (czwartek)**
**Białystok**
godz. 17:00, Katedra – Plac przy Ratuszu
PARADA ZESPOŁÓW

**Białystok**
godz. 18:00, plac przy Ratuszu
MUSIC SOUVENIR/MUZYCZNY SOUVENIR (Ukraina), OLZA (Czechy), SILSKA MUZYKA (Ukraina), KALTERSIA (Albania), CZEREMSZYNA (Polska), ETHNO XL (Ukraina), WoWaKin TRIO (Polska)

**Knyszyn/Kalinówka Kościelna**
godz. 14:00, plac przy kościele św. Anny w Kalinówce Kościelnej
KAPELA BRODÓW (Polska)

**27 lipca 2018 r. (piątek)**
**Białystok**
godz. 18:00, plac przy Ratuszu
ŽIVINICE (Bośnia i Hercegowina), ACTAVIS (Bułgaria), WARSZAWIANKA (Polska), ODPOCZNO (Polska), ETHNO-TRIO TROITSA (Białoruś)

godz. 21:00, Zmiana Klimatu, ul. Warszawska 6
Potańcówka z zespołami WoWaKin TRIO (Polska), KAPELA BRODÓW (Polska) i ODPOCZNO (Polska)

**Bielsk Podlaski**
godz. 18:00, Bielski Dom Kultury
DETVA (Słowacja), RISTO DONEV (Macedonia)

**Dobrzyniewo Duże/Pogorzałki**
godz. 18:00, świetlica w Pogorzałkach
OSHAD (Adygeja)

**Hajnówka**
godz. 18:00, amfiteatr
KALTERSIA (Albania), MERRY CAROUSEL/ WESOŁA KARUZELA (Kałmucja)

**Mońki**
godz. 17:00, Moniecki Ośrodek Kultury
MUSIC SOUVENIR/MUZYCZNY SOUVENIR (Ukraina)

**Krypno Kolonia**
godz. 19:30, Pacowa Chata
MUSIC SOUVENIR/MUZYCZNY SOUVENIR (Ukraina)

**Szczuczyn**
godz. 18:00, kościół Najświętszej Maryi Panny
URMULI (Gruzja)

**Tykocin**
godz. 18:00, zamek w Tykocinie
PERŁA (Litwa)

**Zabłudów**
godz. 19:00, planty
LĪKSME (Łotwa), OLZA (Czechy)

**Zambrów**
godz. 18:00, Miejski Ośrodek Kultury
AKADEMICKI ZAKARPACKI PAŃSTWOWY CHÓR UKRAINY (Ukraina)

**28 lipca 2018 r. (sobota)**
**Białystok**
godz. 18:00, plac przy Ratuszu
MERRY CAROUSEL/WESOŁA KARUZELA (Kałmucja), LĪKSME (Łotwa), RISTO DONEV (Macedonia), URMULI (Gruzja), KAPELA BRODÓW (Polska), SHANNON (Polska)

**Białowieża**
godz. 21:00, amfiteatr OSHAD (Adygeja)

**Czarna Białostocka**
godz. 19:00, stadion miejski
ŽIVINICE (Bośnia i Hercegowina), AKADEMICKI ZAKARPACKI PAŃSTWOWY CHÓR UKRAINY (Ukraina)

**Filipów**
godz. 18:00, plac za Urzędem Gminy
SILSKA MUZYKA (Ukraina), ETHNO XL (Ukraina)

**Grajewo**
godz. 17:00, Grajewskie Centrum Kultury
WARSZAWIANKA (Polska), PRNJAVOR (Serbia)

**Gródek**
godz. 17:00, Uroczysko Gródek-Boryk
PERŁA (Litwa)

**Narewka**
godz. 18:00, amfiteatr w Narewce
ACTAVIS (Bułgaria), DETVA (Słowacja)

**Suwałki**
godz. 18:00, Muszla koncertowa w Parku Konstytucji 3 Maja
CZEREMSZYNA (Polska)

**Szczuczyn**
godz. 18:00, kościół Najświętszej Maryi Panny
SUSANNA JARA (Polska)

**Wasilków**
godz. 19:00, kościół NMP Matki Miłosierdzia
MUSIC SOUVENIR/MUZYCZNY SOUVENIR (Ukraina)

**Wąsosz**
godz. 18:30, hala gimnastyczna Szkoły Podstawowej
OLZA (Czechy)

**29 lipca 2018 r. (niedziela)**
**Białystok**
godz. 17:00, plac przy Ratuszu
DETVA (Słowacja), PERŁA (Litwa), KURPIE ZIELONE (Polska), OSHAD (Adygeja), AKADEMICKI ZAKARPACKI PAŃSTWOWY CHÓR UKRAINY (Ukraina)

**Goniądz**
godz. 17:00, Gminny Ośrodek Kultury
MERRY CAROUSEL/WESOŁA KARUZELA (Kałmucja), RISTO DONEV (Macedonia)

**Nowe Piekuty/Hodyszewo**
godz. 13:00, Sanktuarium Matki Bożej Pojednania w Hodyszewie
MUSIC SOUVENIR/MUZYCZNY SOUVENIR (Ukraina)

**Rajgród**
godz. 16:30, scena na Górze Zamkowej
SILSKA MUZYKA (Ukraina), ETHNO XL (Ukraina)

**Siemiatycze**
godz. 16:30, amfiteatr nad zalewem
KAPELA BRODÓW (Polska)

**Suraż**
godz. 18:00, Miejsko-Gminny Ośrodek Kultury
SUSANNA JARA (Polska)

**Suwałki**
godz. 16:00, Muszla koncertowa w Parku Konstytucji 3 Maja
LĪKSME (Łotwa)

**Szepietowo**
godz. 18:00, Gminny Ośrodek Kultury
OLZA (Czechy), KALTERSIA (Albania)

**Wysokie Mazowieckie**
Godz. 17:00, Miejski Ośrodek Kultury
ACTAVIS (Bułgaria), ŽIVINICE (Bośnia i Hercegowina)

**Zambrów**
godz. 18:00, Miejski Ośrodek Kultury
WARSZAWIANKA (Polska), PRNJAVOR (Serbia)

## Адгаданка Адгаданка Адгаданка

| | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | 1 | 2 | 3 | | | 4 | | | | | | | | | |
| | | | | | | 5 | | | | | | | | | 6 | | | |
| | | 7 | | | 8 | | | | | | | 9 | 10 | | 11 | 12 | | |
| 13 | | | | | | | | | | | | | | 14 | | | | |
| | | | | 15 | | | | 16 | | 17 | 18 | | | | | | | 19 |

**1.** сімвал Белавежскай пушчы, **2.** сімвал нішчэння елачнага дрэвастою Белавежскай пушчы, **3.** кавалак тканіны, напрыклад для мыцця падлогі, **4.** закрытае памяшканне для захоўвання прадуктаў, **5.** міфалагічная багіня навук і мастацтваў, **6.** клак валакна на прасніцы, **7.** Лазар, ювелір, які стварыў крыж Ефрасінні Полацкай, **8.** дзяржаўная мова Ізраіля, **9.** кіславаты напітак прыгатаваны на вадзе з хлеба, **10.** даўняя адміністрацыйная адзінка ў складзе губерні, **11.** картофлі, **12.** мядзвежая „рука", **13.** складнік паветра неабходны для дыхання, **14.** плод капусты, **15.** расліна сямейства перцавых, якой струк выкарыстоўваецца як прыправа, **16.** расліна з мясістым горкім коранем, які выкарыстоўваецца як вострая прыправа, **17.** жонка пана, **18.** сын пана, **19.** сялянская будыніна для захоўвання збажыны, свіран.

Адгаданыя словы запісаць у вызначаныя дарожкі, пачынаючы ад поля з лічбай. У светлых палях атрымаецца рашэнне — беларуская пагаворка. **(ш)**

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя рашэнні, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на адгаданку з 27 нумара**

Бюро, гід, дурань, пень, рэйд, тур, цаца, Шыраз, эму, юда.

Рашэнне: **Ад грошай дурні дурэюць, ад патрэбы разумнеюць**.

Кніжныя ўзнагароды высылаем **Анне Дэм'янюк** з Бельска-Падляшскага і **Міхалу Байко** з Беластока.

Ніва
ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ
PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714
**Выдавец**: Праграмная рада тыднёвіка „Ніва".
**Старшыня**: Яўген Вапа.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 84.
**Тэл./факс:** (+48 85) 743 50 22.
**Internet**: *http://niva.bialystok.pl/*
**E-mail**: *redakcja@niva.bialystok.pl*
***Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Spraw Wewnętrznych i Administracji.***
**Галоўны рэдактар:** Яўген Вапа.
**Намеснік гал. рэдактара:** Віталь Луба.
**Тэхнічны рэдактар:** Адам Паўлоўскі.
**Рэдактар „Зоркі":** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Уршуля Шубзда, Мірaслава Лукша, Аляксей Мароз, Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч, Юрка Ляшчынскі, Янка Целушэцкі.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.
**Друкарня**: „Orthdruk", Białystok.
Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.
**Sprzedaż egzemplarzową „Niwy" prowadzą:** kioski i punkty sprzedaży „RUCH" na terenie woj. podlaskiego oraz w Warszawie (odbiór należy zgłosić u sprzedawcy wybranego kiosku lub punktu sprzedaży „RUCH"), placówki pocztowe i listonosze w woj. podlaskim, kioski i punkty sprzedaży „KOLPORTERA" oraz „GARMOND PRESS", siedziba redakcji „Niwy".
**Prenumerata krajowa**
„POCZTA POLSKA", „KOLPORTER", „RUCH" — kwartalna 32,50 zł., półroczna 65 zł., roczna 130 zł.
Redakcja „Niwy" — kwartalna 60 zł., półroczna 120 zł., roczna 240 zł.
Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie województwa podlaskiego oraz oddziały „KOLPORTER" na terenie całego kraju.
Zamówienia na prenumeratę realizowaną przez RUCH S.A. można składać bezpośrednio na stronie www.prenumerata.ruch.com.pl
Ewentualne pytania prosimy kierować na adres e-mail: prenumerata@ruch.com.pl lub kontaktując się z Telefonicznym Biurem Obsługi Klienta pod numerem: 801 800 803 lub 22 717 59 59 – czynne w godzinach $7^{00}$ – $18^{00}$.
**Wpłaty na wysyłkę z redakcji przyjmuje: Rada Programowa Tygodnika „Niwa",**
BANK PEKAO S.A. O/Białystok
38 1240 5211 1111 0000 4929 0945
**Nakład:** 1 000 egz.

## 29.07 — 04.08

**(22.03. — 20.04.)** Некаторыя сябры расчаруюць цябе так, што не схочаш іх нават ведаць! Адчуеш горыч здрады! Затое могуць трапіцца непрацяглыя раманы. 29-30.07. можаш сустрэць кагосьці, за каго трэба будзе паваяваць. У фінансах разлічвай на сябе. Да 5.08. прадвесце неспакою і вялікіх змен, старайся быць гнуткім, не прывязвайся да сваіх планаў. Наладзіш кантакты, якія пашыраць твае гарызонты.
**(21.04. — 21.05.)** Не канцэнтруйся адно на павялічванні маёмасці. Трымай нервы на павадку. 30 ліпеня вельмі неспакойная сітуацыя ў фірме, можаш страціць шмат здароўя. Важныя размовы з блізкімі і ўплывовымі людзьмі. Варта пабыць над вадой. Шукай новую працу — да 6.08. спрыяюць табе зоркі. Будзеш больш самаўпэўнены.
**(22.05. — 22.06.)** Можаш спадзявацца павышэння; кіраўніцтва вельмі добра ацэніць твае перавагі. Ды вельмі пільнуйся распушчвання грошай, не займайся гульнямі ды іграмі, бо можаш усё страціць! Партнёр можа паказаць іншы твар. Адкрыеш у сабе талент да кіравання іншымі
**(22.06. — 23.07.)** Можаш разлічваць на сяброў і іх падтрымку. 30.07. не вырашай ніякіх фінансавых спраў. Вельмі цяжка табе рацыянальна думаць, можаш нарабіць шмат памылак — кіруюць табою эмоцыі. Едзь у месца, дзе ніколі не быў. Не бойся з'ездзіць за мяжу! Росквіт у пачуццях і ўдачы ў каханні.
**(24.07. — 23.08.)** Удачы на працы і ў любові. Засяродзься на каханай асобе (зноў закруціш ёй у галаве!). Бо непаразуменні і сямейныя інтрыгі могуць давесці да сур'ёзнага канфлікту. Можаш адчуць сябе як у тупіку. Хтосьці можа нават кінуць хату (аліву ў агонь падліе кабета Скарпіён або Стралец). 29-30.07. твая цярплівасць будзе паддадзена выпрабаванню. З'ездзі за мяжу!
**(24.08. — 23.09.)** Можаш планаваць найцяжэйшыя задачы, які патрабуюць засяроджанасці, цярплівасці да дробязей. Твае геніяльныя ідэі выклічуць захапленне, асабліва ў хаце (усе фінансавыя справы кансультуй з роднымі). Спрэчкі з калегамі на працы, асабліва з Ільвамі. Будзеш моцна гэтым раздражнены, ды ўсё кончыцца добра. Твая краса заўважыцца іншым полам.
**(24.09. — 23.10.)** Сатурн схіліць цябе да сур'ёзных змен у жыцці, а нават новага пачатку. Да 6.08. можаш запланаваць найцяжэйшыя заданні, з усім справішся прыпяваючы. Гэтыя дні прысвяці сабе. Адпачывай, цешся. Адарвіся ад штодзённшчыны. Можаш расчаравацца ў пачуццях (скінеш ружовыя акуляры).
**(24.10. — 22.11.)** Аптымізм і пазітыўнае мысленне, з гэтым удасца перамагчы перашкоды. Але будзь вельмі асцярожны. Можаш стаць ахвярай уласнай агрэсіі і нецярплівасці! Можаш сустрэцца са шматлікімі непрыемнымі сітуацыямі, уступай, калі ты няўпэўнены ў сабе. Кантралюй сваю злосць і пануй над хцівасцю. Пасля бурлівай атмасферы ў хаце неба праясніцца. Пагодзішся з калегам, з якім даўно былі непаразуменні. Калі працуеш на сваім, можаш спадзявацца багатага прыбытку.
**(23.11. — 22.12.)** Разгар кампанейскага жыцця. Новыя людзі, а старыя пакажуць свой файны бок. Выразны прыліў сілы. Можаш брацца за рэалізацыю шалёных планаў. Стральцам з пачатку снежня трапяцца рэдкія шанцы. Варта выбрацца за мяжу. Камунікабельнасць і лёгкасць вырашэння розных спраў.
**(23.12. — 20.01.)** Будзеш зззяць здароўем і карыстацца папулярнасцю. Спатрэбіцца змяніць тактыку дзеяння. Самаўпэўненасць. Можаш набраць адвагі для рэалізацыі нават рызыкоўных мерапрыемстваў. Добрыя парады зычлівых людзей. Паправа ў фінансах, рaптоўная! Аптымізм адкрые табе дзверы да поспеху! Можаш спадзявацца добрых нагод у рабоце.
**(21.01. — 19.02.)** Пазітыўныя змены на прафесійным полі. Адважся зрабіць тое, аб чым здаўна марыў. Фантастычны настрой. Хуткі тэмп спраў, без перашкод. Аддзялі справы прафесійныя ад асабістых. Канструктыўныя дыялогі. Рассакрэціш сваіх працўнікаў. Можаш стаць вока ў вока з праблемамі, якія стараўся мінаць (высокая цана, ды вынікі пазітыўныя). Асцерагайся канфліктаў на працы.
**(20.02. — 21.03.)** Пяройміш ініцыятыву і лёгка справішся са зменлівасцямі лёсу. Не ідзі на кампрамісы. Пазбягай важных размоў. Не нервуйся з-за абы-чаго і не марнуй энергіі на пустыя справы. Не вяжыся, калі сэрца не ўпэўнена. Можаш даверыць асобе няварта́й гэтага. Не наракай. Калі не можаш ісці ў водпуск, хоць высыпайся. Праца не заяц, не ўцяча. Найлепш адчуеш сябе ў гарадах на вадзе (Амстэрдам, Санкт-Пецярбург).

**Агата АРЛЯНСКАЯ**













1 ☞ працяг

# «Басовічша» — тут усё наша!












— Для мяне «Басы» гэта пачатак, мэта, месца, ад якога штогод пачынаю экскурсію па Еўропе, — сказаў Уладзіслаў.
— Таксама «Басовічша» было інспірацыяй для напісання маёй першай кнігі падарожжаў.

Яўген Цярэнцеў прыязджае на «Басовішча» з мінулага года. Прызнаўся, што цяжка яму аднесціся да першых і гэтых мацнейшых, калі гаварыць пра гучанне, «Басаў». Аднак сам захапіўся фестывалем у гэтым варыянце, які прапануюць цяперашнія арганізатары.

— Гэта вельмі незвычайна, сюррэалізм нейкі, нейкая ўтопія. Беларусы, якія не могуць зладзіць такі фестываль у сябе на Радзіме, праводзяць яго ў Польшчы. І Польшчы гэта, відавочна, нават больш патрэбна, чым нам. Я пад «намі» маю на ўвазе не музыкаў і тусоўку, а ўвогуле беларусаў. Тут з аднаго боку — рэзервацыя, а з другога — пэўная падвоенасць.

«Басовішча» напэўна не перастала інтэграваць беларускую меншасць у Польшчы і яе суайчыннікаў з-за мяжы. Фестывальнае жыццё традыцыйна віруе не толькі пад сцэнай, але і ў намётавым мястэчку, дзе можна гаварыць пра важныя і менш важныя рэчы дзесьці пад дрэвам.

Агульная рыса ўсіх «Басаў» — інтэграцыя беларускай меншасці ў Польшчы і яе суайчыннікаў за мяжой. Менавіта на працягу двух дзён у вялізнай прасторы фестывалю можна пад вялікімі соснамі гаварыць аб усіх справах і так сустракаць світанак.

## «Басовічша» спарадзіла вялікую музычную плынь

Другі дзень фестывалю «Басовішча» гэта перш за ўсё выступы легенд беларускай рок-сцэны. Гурт «Neuro Dubel» — адзін з «патрыярхаў» беларускага рока сёлета, так як фестываль «Басовічша» святкуе 29-годдзе свайго існавання.

— Я вельмі нерваваўся перад выступам, — прызнаўся Аляксандр Кулінковіч з гурту «Neuro Dubel». — Калі выканаўца не нервуецца, тады яму трэба ўжо збіраць капыты. Я ўжо засумаваў па «Басовішчы». Мы даўно тут не гралі. Мне добра. «Басовішча» для мяне гэта подых свабоды. На гэта не мае ўплыву сітуацыя ў Беларусі. Той фестываль такі лёгкі.

Не без сентыментаў вяртаецца на «Басовішча» адзін з самых папулярных музыкаў Лявон Вольскі.

— «Басовішча», можна сказаць — найстарэйшы беларускі фестываль. Ніводзін беларускі музычны фестываль не вытрываў столькі часу як «Басовішча», — сказаў перад выступам Лявон Вольскі. — 29 гадоў — нейкая страшная лічба. Частка жыцця. Я на некалькіх не быў, але гэта звычайны летні фестываль, да якога рыхтуешся і едзеш на яго.

«Басовішча» застанецца гэтым фестывалям, ад якога ўсё пачалося.

— Мяне пыталіся: навошта зараз «Басовішча», паколькі можаш ехаць куды захочаш на фестываль у Беларусь, — сказаў журналіст і музыка Віталь Зыблюк. — У прынцыпе фестываль «Басовішча» быў першым фестывалем, на якім збіраліся беларускія музыкі, дзе збіраліся беларусы. Гэта першы беларускі фестываль. І ведаеце, калі ў сям'і бацька, у бацькі нарадзіліся дзеці, у дзяцей ужо свае дзеці. І нельга казаць, што наш дзед ужо не той. Так, ён ужо можа быць не той, але тым не менш ён застаецца самым асноўным, галоўным. «Басовішча» спарадзіла вялікую музычную плынь. «Басовішча» было тым, што рухае музычны працэс. Яно зрабіла вялікі крок у гісторыі беларускай музыкі і паўплывала вельмі пазітыўна на музычны працэс.

ISSN 0546-1960 30